PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 43 (2006) ГОД XXXIX БЕЛАСТОК 23 КАСТРЫЧНІКА 1994 г. ЦАНА 4000 зл.



— А гэта што такое? Трэба спытаць у дзеда. Фота У. Завадскага

## Два ручаі слёз

— Было гэта якраз, калі пачаўся крызіс. Прыехаў да нас немец, вялікі чалавек, на паляванне. Бауман, здаецца, называўся. Я па-нямецку разумею, то і пагаварылі. Спытаў: не сумна вам адной у гэтай леснічоўцы? Не баіцеся? А чаго ж, кажу, мне баяцца? Што, мне тут дрэнна? Сонца свеціць, паветра чыстае, лес зялёны і птушкі спяваюць. А звер, ён не чалавек — крыўды не зробіць. Тут мяне ніхто не чапае, не б'е нагайкаю, ды і гавораць, як з чалавекам, пашану да мяне маюць. Людзей трэба баяцца, а не звера. Мне ў вас было кепска. Колькі ж я там намучылася, як уцячы хацела, ды толькі не ўдалося... — Цётка Надзя чыстым хвартушком змахнула наплыўшыя на вочы слёзы. — Я так гавару, а ў яго, гэтага немца, з-пад акуляраў два ручайкі так і паплылі... Сорамна яму стала. І пакінуў ён тады мне ўсё, што прывёз з сабою ў багажніку машыны: і муку, і крупу, і цукар, і шмат чаго іншага. — Цётка Надзя выцерла вочы насуха і пачала падаваць вячэру.

* * *

Мінула ўжо гадоў дзесяць, як мы сустрэліся з цёткай Надзяй упершыню. Было гэта ў леснічоўцы на Падцэркві, што ў дзесяці кіламетрах ад Белавежы. Цэлую ночку праседзелі: цётка расказвала і плакала. Плакала і расказвала. Не ведала яна тады, што магу пра ўсё гэта напісаць...

* * *

— Быў год сорак другі, не, мусіць, сорак трэці. Мужа майго ўзялі ў армію яшчэ ў саракавым, а я засталася з мужавым дзедам у Махнатым. Сама я родам са Збуча, а ў семнаццаць гадоў выйшла замуж у Махнатае. Быў у нас сыночак. Памер маленькі, не хварэўшы, месяцаў дзесяць яму было. Не даў Бог цешыцца больш дзецьмі...

Мне мінула якраз дваццаць два гады, калі немцы загадалі з'явіцца для вывазкі ў Германію. Мама параіла: натрэш рукі і ногі курынай слепатой — ногі папухнуць, можа немцы не возьмуць... Нарвалі курынай слепаты, маці патаўкла яе, папрыкладвала да рук і ног, абвязала. Уся ў нервах, чакаю. На другі дзень маці адвязвае анучкі, а там нічога, толькі чырвоныя плямы парабіліся. Потым я заўважыла, што пузыркі вадзяныя выскачылі, малечкія такія. Ну, думаю, нічога не будзе. Аж тут бачу: адны суцэльныя, вялізныя пузыры з іх зрабіліся. Ну, уцешылася я, будзе добра!

Але ж узялі. Ісці не магла. Босую і ў адной сукеначцы на воз пасадзілі, а бацькі з вузялочкам, у якім была мая вопратка ды абутак, за мной на сваёй фурманцы ехалі.

Прывезлі мяне да нейкага пограба, сапхнулі з воза, яшчэ і нагайкай немец хляснуў. Увапхнулі ў той пограб, адну-аднюсенькую — за кару, што ад Германіі выкруціцца хацела. Немцы — не дурні, адразу здагадаліся... Так і не перадалі мне бацькі ні тае вопраткі, ні абутку, і засталася я ў адной сукеначцы і босая.

Загналі ў лагер у Кёнігсберг. Там ужо былі тысячы такіх, як я. У адной сукеначцы ганялі мяне на работу. Былі ўжо прымаразкі. Па белай ад інею траве ішла я, босая, капаць лагерную бручку, рэдзьку. Там былі і ваеннапалонныя з розных краін. Убачылі, што я такая голая. Француз скінуў шынель, а паляк — бацінкі. Яны маглі б узяць вопратку ізноў па памершых. А мне стала цяплей.

Там, бывала, не пасядзіш задоўга нават у туалеце. Нагайкай гоняць, кажуць, адпачываць расселася. Білі і мелі чалавека за нішто. Прыдумала я, каб піць запараную махорку. Думаю, можа атручуся — нічога не выйшла.

Тады прыдумала я іншае. Узяла распаленае жалеза, ды панаколвала на руках каля кісці. Парабіліся раны, і трапіла я ў бальніцу, а адтуль — да баўэра, то хоць перасталі ганяць на лагерныя палі на катаржную работу.

Цяпер ужо было лёгка: даіла васемнаццаць кароў, карміла свіней, усю гаспадарскую жывёлу, ну, і рабіла ўсё, як на гаспадарцы.

Там і была я аж да сорак пятага, пакуль не прыйшлі рускія. Яны запрапанавалі мне працу на кухні ў воінскай часці. Я нават не ўяўляла сабе, што будзе так, як было. Я ўжо была як бы прыпісана да гэтай часці. Нікуды нас адтуль не выпускалі, нікуды нельга было адлучыцца. Праз год часць выехала у Днепрапятроўск, але пакуль я там працавала, я не магла крануцца з месца.

Працяг на стар. 3

## Бардаўская восень — Бельск'94

Размова са старшынёй Звязу беларускай моладзі — БАГДАНАМ СІМАНЕНКАМ.

— Напішы, што арганізатарам з'яўляецца ўвесь ЗБМ, а я — толькі адказная асоба. Зрэшты, не адзін. Другі адказны за фестываль — мой намеснік, Тамаш Андраюк.

*— Адкуль узялася ідэя „Бардаўскай восені"?*

— Два гады таму на „Басовішчы" зразумелі мы, што рок-музыканты і барды на адной імпрэзе не сыходзяцца. Паколькі Гарадок стаў месцам сустрэч толькі прадстаўнікоў моцнага ўдару, дык паявілася патрэба ў другім спатканні — больш лірычным, пад гітару. Былі спробы сарганізаваць нешта ў Варшаве, але без большага поспеху. Цяпер мы рашыліся на Бельск — сталіцу беларускасці ў Беластоцкім краі.

*— Хто пакажацца 29 і 30 кастрычніка ў Бельскім доме культуры?*

— Зоркі бардаўскай песні з Рэспублікі Беларусь і з Польшчы. Адтуль прыедуць — спадзяёмся — Віктар Шалкевіч, Алесь Камоцкі, Кася Камоцкая, Лана Медзіч. Адсюль — Альжбета Бэзюк і „Белы сон" з Мартай Драль і Янкам Хохам. Хочам таксама, каб паказаліся на нашым фестывалі малавядомыя спевакі з Беларусі і каб для іх стаў ён пачаткам выхаду ў шырокі свет.

*— На якую публіку разлічваеце?*

— На нашу беларускую моладзь. Ну, і можа крыху на палякаў. Хачу падкрэсліць, што ўваход свабодны. Тым не менш, канцэрты будуць мець характар конкурсаў, вылучаныя артысты будуць узнагароджаны. Гэта магчымае дзякуючы нашым спонсарам, галоўных з якіх хацеў бы я тут пералічыць. Гэта: гарадскія Рада і Управа Бельска, Бельскі дом культуры, Генеральнае консульства РБ у Беластоку, Міністэрства культуры і друку РБ, Радыё Беласток, „Ніва", „Часопіс", беларуская эміграцыя ў Амерыцы, Ваяводскі асяродак анімацыі культуры і іншыя прадпрыемствы і прыватныя асобы з Беласточчыны (некаторыя з якіх хочуць застацца ананімнымі). Усім ім выказваю нашу ўдзячнасць.

*— Калі будзеце лічыць, што імпрэза вам удалася?*

— Гэта першы фестываль такога тыпу і мы глядзім на яго, як на пэўнага роду зонд, які пакажа нам хаця б грамадскае запатрабаванне на такую музыку, на такую імпрэзу. Пабачым, ці на будучыню не арганізаваць фестываль у большым маштабе. Можа крыху ранейшай восенню і не ў БДК, а ў гарадскім парку? Будзем лічыць, што імпрэза нам удалася, калі будуць водгукі ў нашым асяроддзі — чым больш, тым лепш — і калі заўважыць нас польская прэса.

Працяг на стар. 5

# МЫ ПРАЧЫТАЛІ

*Białorusini na Białostocczyźnie mają swoje szkoły, cerkwie, zespoły artystyczne, prasę i nawet dotacje państwa na rozwój kultury. Posiadają swoich przedstawicieli w Sejmie i władzach naczelnych Rzeczypospolitej.*
*(Głos znad Niemna, nr 35, Pismo Związku Polaków na Białorusi)*

Калі ласка, мы нават не ведалі, як нам цудоўна жывецца! Трэба аж пачытаць „Głos znad Niemna", каб даведацца, што ў нашых школах і цэрквах гучыць беларуская мова, што нашыя паслы бушуюць у Сейме, а палітыкі — у міністэрскіх кабінетах. Салдатам-беларусам у польскай арміі духова апякуюцца беларускія капеланы. Не ведалі мы гэтага, але цяпер ужо ведаем. Дзякуем, дзякуем, дзякуем...

* * *

*Obecnie znamy wiele dokumentów świadczących o tym, że Rewolucję Bolszewicką finansowały pokaźne grupy banków i firm z Zachodu. Obawiano się bowiem, że Rosja może stać się największym centrum przemysłowym w Europie.*
*(Najwyższy Czas, nr 35)*

* * *

*Тальная меліярацыя ў Беларусі пачалася ў шасцідзесятых гадах, пры Хрушчове, які любіў асвойваць новыя прасторы. Вельмі любіў меліярацыю партыйны ўладыка ўсея Беларусі Машэраў. Так званую меліярацыю. Бо нічога агульнага з сапраўдным паляпшэннем зямлі яна не мела. Асушана тры мільёны гектараў балот і забалочаных зямель. Але ворыўнай зямлі не прыбавілася. Чаму не прыбавілася? Таму, што за гэты час страчана тры мільёны стараворыўнай зямлі, якая служыла народу стагоддзі. Яна пераўтварылася ў пяскі, зарасла хмызняком. У лепшым выпадку на ёй пасадзілі сасновыя лясы. У асушаныя балоты закапаны мільярды народных грошай.*
*(Народная газета, 8 верасня 1994 г.)*

Гэты эксперымент проста не ўдаўся, так як у тундры не вырасла кукуруза. Але было весела!

* * *

*Dla Niemców Borys Jelcyn jest przedstawicielem wielkiego, groźnego i w jakiś sposób nieobliczalnego narodu, a to wzbudza szacunek i respekt. Naród rosyjski — jest nieobliczalny, a zarazem romantyczny i sentymentalny. Rosja Niemców pociąga i pociągała zawsze. Może dlatego, że Rosjanie mają te cechy narodowe, których Niemcy nie mają — picie na umór, cygańskie romanse, wielka i nieobliczalna dusza jak z powieści Dostojewskiego i dzikie kozackie tańce. Miłość do Rosjan jest uczuciem irracjonalnym. Nikt w Niemczech nie powie, że ponieważ Rosję i Europę Wschodnią opanowała mafia, to wszyscy Rosjanie są bandytami. Ale o Polakach mówi się bez żenady, że kradną, bo niektórzy Polacy kradną.*
*(Rzeczpospolita, nr 226)*

Любоў найчасцей сляпая і ірацыянальная. Палякі кахаюць немцаў, а немцы (няўдзячнікі!) расейцаў. І ніхто з гэтага кахання не мае ніякай прыемнасці, а толькі самыя вялікія драмы.

* * *

*Piłsudski miał krasną duszę i działał jak Czerwony. Z tego powodu Prymas Polski uparcie odmawiał pochowania tego czerwonego bandyty na Wawelu. Ja Go nienawidzę, ponieważ nie lubię socjalizmu,* — піша Януш Корвін-Мікэ, лідэр Уніі рэальнай палітыкі.
*(Najwyższy Czas, nr 39)*

* * *

*Najbitniejszą część wojsk chorwackich stanowią profaszystowskie bojówki (HOS) Dobroslava Paragi, szefa Chorwackiej Partii Prawa, jawnie nawiązującej do tradycji i programu ustaszy. Siły milicji HOS-u oceniane są na ok. 30 tys. W oddziałach HOS służy spora grupa Niemców, Anglików, Francuzów, Polaków. Walczą za 130 marek miesięcznie. Najważniejsza jest dla nich walka. Jeńców nie biorą, rozstrzeliwują na miejscu.*
*(Przegląd Polityczny, nr 21—22)*

* * *

*Cukier podrożał ostatnio z 8 do 16 tys. zł. czyli o 100 proc. GUS tym czasem podaje, że tylko o 12 proc. Kawa podrożała z 22 do 46 tys. zł. czyli o 100 proc. Według GUS tylko o 29 proc. Natomiast żywność w całości według Urzędu podrożała w ostatnich miesiącach tylko o 4,3 proc.*
*(Polityka, nr 40)*

З урадніцкіх кабінетаў і з вуснаў палітыкаў заўсёды плыла праўда і толькі праўда. Пры тым, што дзеецца цяпер у свеце палітыкі, кабарэ ў выкананні прафесіянальных сатырыкаў — зусім нясмешнае.

* * *

*Waldemar Pawlak ma wizję jako premier, a jest nią pomyślność Waldemara Pawlaka — polityka, dla którego własny cel uświęca środki.*
*(Wprost, nr 39)*

* * *

*Zawsze głośno mówię to, co myślę. Jeśli chodzi o nasz piąty z kolei rząd, to uważam, że jest on nie do przyjęcia, pomimo wolnych wyborów. Występuje tu pewna prostytucja polityczna w zabieganiu o miejsca i pozycje. Doprawdy ręce można załamać patrząc na tę wielką stajnię Augiasza,* — сказаў былы духовы апякун „Салідарнасці", ксёндз-пралат Генрык Янкоўскі.
*(Gazeta Współczesna, nr 185)*

„Прастытуцыя", „пазіцыя". Адкуль такі эратычны слоўнік?"

* * *

*Środki masowego przekazu bardzo często podają błędne dane, dotyczące liczby wiernych wyznania prawosławnego w Polsce. Tymczasem według najnowszej, w pełni wiarygodnej statystyki — jest ich w Polsce 186 163, z czego najwięcej mieszka na obszarach diecezji drohiczyńskiej (82 548) oraz białostockiej (67 000). Diecezję katowicką zamieszkuje 25 osób wyznania prawosławnego.*
*(Głos znad Niemna, nr 36)*

І зноў, дзякуючы рэдакцыі „Głosu znad Niemna", можам чагосьці даведацца аб сабе. Так дакладных статыстык пэўна нават не мае тайная паліцыя! Яшчэ, здаецца, нікому дагэтуль не прыйшло ў галаву лічыць праваслаўных у межах каталіцкіх епархій.

* * *

*Do kobiet, z którymi można się przyjaźnić i flirtować, ale nie należy się żenić należy tzw.* **harcerka**. *Ubrana w dżinsy albo zgrzebną sukienkę na każdą okazję, zorganizuje obozowisko zamiast domu. Na żony nie nadają się też* **działaczki i dewotki**. *Jedne i drugie są głęboko zaangażowane ideowo. Idea, posłuszeństwo organizacji, uwielbienie dla przywódców to dla nich ważniejsze niż obowiązki rodzinne — lepiej niech samotnie wznoszą kapliczki i stawiają ołtarze swoim bóstwom. Kolejny typ, z którą trudno żyć to* **kobieta walcząca**. *Ta toczy boje nie z pobudek ideowych czy uwielbiania przywódców, lecz z potrzeby wewnętrznej. Nie warto żenić się z furiatką.*
*(Poradnik Domowy, nr 16)*

Парады, відаць, даваў стары кавалер.

# З мінулага тыдня

**У беластоцкім кірмашы „BUD-EXPO'94"** прымалі ўдзел афіцыйныя прадстаўнікі міністэрстваў Рэспублікі Беларусь і Літвы, а таксама прадпрымальнікі з названых краін і Расеі. Віцэ-міністр будаўніцтва Беларусі **Таццяна Голубева** пасля кірмашу сказала: „Польская аферта ў галіне будаўніцтва надта цікавая, а ў нас цяпер наглядаецца вялікае запатрабаванне на развіццё прыватнага будаўніцтва. Вынікі праведзеных у час кірмашу перагавораў паказваюць на тое, што ёсць шанс на шчыльнае гаспадарчае супрацоўніцтва".

**Беларуская дэлегацыя** на чале з віцэ-міністрам будаўніцтва **Таццянай Голубевай**, якая ўдзельнічала ў кірмашы „BUD-EXPO'94", сустрэлася з беластоцкім віцэ-ваяводам **Гжэгажам Рыкоўскім**. Госці станоўча ацанілі кірамш, цікавіліся польскай падатковай сістэмай у галіне будаўніцтва і структурай маёмасных пераўтварэнняў.

**У галерэі Фоксаль** у Варшаве адбылася мастацкая выстаўка **Лявона Тарасэвіча**. Асаблівасцю гэтай экспазіцыі з'явілася тое, што кампазіцыя была намалявана на сценах выставачнай залы.

**Беластоцкі радыёжурналіст Ян Смык** стаў лаўрэатам І узнагароды за рэпартаж „Святога Гаўрыла смерць дзеля жыцця" на III Міжнародным форуме радыёмастацтва „Мікрафон'94", арганізаваным пад эгідай Еўрапейскай радыёвяшчальнай уніі.

**Група дзяцей з Салігорска**, якія пацярпелі ад аварыі на Чарнобыльскай АЭС, прыехалі на лячэнне ў Старыну каля Дубіч-Царкоўных. Разам з імі прыехалі настаўнікі і лекары. Дзяцей лечаць зёлкавымі прэпаратамі.

**Беластоцкае ваяводства** атрымала ад Міністэрства аховы здароўя 83 мільярды 871 мільён злотых на пагашэнне задоўжанасці шпіталяў і амбулаторый.

**У беластоцкім Следчым ізалятары** адбыўся трохдзённы агляд кінафільмаў, створаных кінематаграфістамі з Ваяводскага асяродка анімацыі культуры. Сярод кінафільмаў, якія дэманстраваліся вязням, была карціна Славаміра Выспянскага „Заўсёды жывая Грабарка".

**Управа горада Беластока** дала дазвол арганізаваць у горадзе **казіно**. Іграseverны дом будзе знаходзіцца ў гасцініцы „Крышталь", а яго арганізацыяй займаецца прадпрыемства, якое вядзе такія ўстановы ў Кракаве, Познані, Варшаве і Вроцлаве.

**Бальніцы ў Сямцічах** прысвоена імя **княгіні Анны Ябланоўскай**. Урачыстасць адбылася з выпадку 20-годдзя існавання цяперашняга шпіталя і ў гонар 200-годдзя заснавання княгіняй Ябланоўскай у гэтым горадзе інстытута акушэрства, у якім бясплатна вучылі акушэрак. У тадышняй Рэчы Паспалітай працавала пяць такіх інстытутаў (у Варшаве, Вільні, Львове, Познані і Сямяцічах).

**Гарадская рада ў Кляшчэлях** лічыць, што зямля і будынкі былога ПГРа перададзены ў неадпаведныя рукі. Негаспадарлівы арандатар, які пераняў частку дзяржаўнага маёнтка, запусціў зямлю, а ў офісе заснаваў гусіную ферму і знішчыў будынак. Бурмістр Кляшчэляў за гэтае марнатраўства абвінавачвае Агенцтва дзяржаўнай сельскагаспадарчай уласнасці ў Сувалках, якое перадало ПГР не кансультуючыся з уладамі горада. Гэтая ўстанова не цікавілася потым лёсам перададзенай гаспадаркі.

**Кураторыя асветы ў Сувалках** пачала акцыю збору кніжак для польскіх школ у Беларусі. Акцыя — вынік візіту прадстаўнікоў Саюза палякаў Беларусі ў гэты горад. Дагэтуль Сувальшчыну наведвалі групы польскай моладзі з Гродна і Ваўкавыска.

**На гранічным пераходзе ў Палаўцах** супрацоўнікі Гранічнай стражы затрымалі грамадзяніна Беларусі, які хацеў выехаць з Польшчы на ўкрадзенай у Бельгіі аўтамашыне маркі „Фольксваген-вэнта".

# Праз тыдзень у „Ніве"

- > Чалавек і жывёла — рэпартаж Ганны Кандрацюк.
- > Сенсацыя ў Эрмітажы — а. Канстанцін Бандарук аб пошуках скарбаў сусветнай культуры.
- > Штодзённае жыццё пісьманосца —рэфлексіі М. Панфілюка.

# ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ

## Не парламенцкая, а прэзідэнцкая

Вярхоўны Савет ухваліў прапанаваныя прэзідэнтам РБ змяненні і дапаўненні ў закон аб мясцовым самакіраванні і мясцовай гаспадарцы. Яны прадугледжваюць першы этап рэфармавання мясцовай выканаўчай улады. Гэта звязана перш за ўсё з прынцыпамі раздзялення ўладаў, якія замацаваны ў канстытуцыі, і ператварэння парламенцкай рэспублікі ў прэзідэнцкую. Згодна з унесенымі прэзідэнтам змяненнямі будуць скасаваны саветы т.зв. пярвічнага ўзроўню: сельскія, пасялковыя, гарадскія раённага падпарадкавання і раённыя ў гарадах. На месцы іх, за выключэннем двух апошніх, будзе створана мясцовая адміністрацыя.

## На радзіме

Са сваім першым візітам у Гродне знаходзіўся сусветна вядомы даследчык у галіне касманаўтыкі, акадэмік Міжнароднай акадэміі астранаўтыкі Барыс Кіт — ураджэнец вёскі Агароднікі Карэліцкага раёна. Барыс Уладзіміравіч пакінуў радзіму паўстагоддзя таму і зараз жыве ў Франкфурце-на-Майне. Госць наведаў старыя і новыя замкі ў абласным цэнтры, Інстытут біяхіміі Акадэміі навук РБ, выступіў у Гродзенскім дзяржаўным універсітэце, дзе з'яўляецца ганаровым прафесарам. Цёпла сустракалі свайго земляка ў Карэлічах, а ў Навагрудку Барысу Кіту прысвоена званне ганаровага грамадзяніна горада.

## Узмацненне аховы

Пасля выбрання прэзідэнта журналісты і чыноўнікі Дома ўрада сутыкнуліся з сур'ёзнай праблемай наведвання будынка, дзе зараз размясцілася і прэзідэнцкая адміністрацыя. Цяпер карэспандэнцкага пасведчання недастаткова, а спіс адказных работнікаў Дома ўрада рыхтуецца ледзь не кожны дзень. Узоры пропускаў мяняліся ўжо некалькі разоў. Прэзідэнт лічыць узмацненне аховы абгрунтаваным, паколькі мае даныя аб актывізацыі нядобразычліўцаў, і ў першую чаргу ад камерцыйных структур.

## Польскія ўзнагароды

Прэзідэнту Акадэміі навук Беларусі Леаніду Сушчэню прысвоена званне замежнага члена ПАН. Адпаведныя гэтаму званню дыплом і знак беларускаму вучонаму ўрачыста ўручылі ў пасольстве РП у Менску. У гэты ж дзень у пасольстве віншавалі і дацэнта Беларускага дзяржаўнага універсітэта Кіру Юлумянс. Ёй уручаны ганаровы знак „Заслужаны для польскай культуры".

## Гісторыкі пра АК

У Гродне адбылася чацвёртая канферэнцыя беларускіх і польскіх гісторыкаў. Ініцыятарамі гэтых канферэнцый выступілі таварыствы „Беларусь — Польшча" і „Польшча — Беларусь", а ўдзельнічаюць у іх вядомыя гісторыкі абедзвюх краін. На гэты раз вучоныя разглядалі адно з найбольш складаных пытанняў гісторыі — аб дзейнасці Арміі Краёвай на тэрыторыі Заходняй Беларусі.

## Новы сезон

Прэм'ерай паэтычнай драмы Раісы Баравіковай „Барбара Радзівіл" пачаў чацвёрты свой сезон Рэспубліканскі тэатр беларускай драматургіі „Вольная сцэна". Надзелены паўнамоцтвамі тэатра-школы ён не мае праблемы выбару рэпертуару, бо выхаванцы — драматургі-пачаткоўцы непасрэдна на рэпетыцыях уласных твораў спасцігаюць законы сцэнічнага мастацтва, у выніку чаго атрымоўваюцца прэм'еры. У сезоне тэатр абяцае сем новых пастановак.

## Невядомая роля

Раскол ва ўласных шарэнгах не замінае левым актыўна шукаць падтрымкі ў Маскве. Нядаўна старшыня Народнага руху Сяргей Гайдукевіч разам са сваімі сустаршынямі і галоўным рэдактарам „Новай народнай газеты" Наталляй Машэравай знаходзіліся ў Маскве. Там яны прымалі ўдзел у парламенцкіх слуханнях на тэму „Аб становішчы суайчыннікаў за мяжой". Цікава, у якасці каго выступалі „рухаўцы" на пасяджэнні Думы — пакрыўджаных суайчыннікаў, ці экспертаў па нацыянальных пытаннях?

## НАТО пагражае суверэнітэту

Савет Саюза афіцэраў прыняў заяву, у якой процістаўляецца далучэнню рэспублікі да ініцыятывы ЗША „Партнёрства ў імя міру". На думку аўтараў заявы, з'яўляецца яна першай ступенню на шляху да поўнамаштабнага ўключэння Беларусі ў ваенна-палітычны блок НАТО. Гэта абазначае, што Беларусь будзе прывязана да ваеннай калясніцы НАТО і будзе несці палітычную і маральную адказнасць за дзейнасць блока, што супярэчыць закону аб нейтралітэце рэспублікі і пагражае яе суверэнітэту.

## Штурмаванне граніцы

Націск іракскіх курдаў на беларуска-польскую граніцу не змяншаецца. Нядаўна было затрымана восем іракскіх грамадзян у Брэсце і пяць — у Гродне. Паводле ацэнак спецыялістаў штурм гэтай граніцы іракцамі выкліканы актывізацыяй іракскіх курдаў у Германіі.

# Два ручаі слёз

*Працяг са стар. 1*

Ну, а праз нейкі час я атрымала паведамленне, што мой муж загінуў у 1946 годзе, бо працаваў у міліцыі. Перажыў вайну, а загінуў дома. Такія былі неспакойныя часы. А я, праўда, знайшла сабе чалавека, рускага. Быў ён шаферам. Казаў, што калі толькі акажацца, што мой муж жывы, дык не будзе мець нічога супроць, каб я выехала. А тут гэтае паведамленне... Ну, дык узялі шлюб. І адсюль я Асеева, хаця з дому Якімюк, а па першым мужу — Прычыніч. Чалавек аказаўся шалапутам. Пачалі мы вандраваць па Расіі, усё шукалі лепшага жыцця, каб быў хлеб і да хлеба. Але добра там, дзе нас няма. Муж нідзе не мог загрэць месца. Скалясілі ўсю Расію, і ў Курскай губерні былі, і ў Малдавіі, і ў Белгарадзе, і ў Адэсе. Піў.

Я штораз часцей спаглядала на захад: там быў мой дом. І адна-адзіная мара засланіла мне свет: вярнуцца ў родныя мясцы.

Два разы ўдалося мне з'ездзіць дахаты ў госці. Цяжка было вяртацца да мужа... Тым больш, што швагер пераконваў: „Ну, што ён, хворы ці калека нейкі? Дзяцей не маеш, кідай усё і вяртайся дадому. З намі не прападзеш!"

Ну, дык мы ўзялі развод, і ў семдзесят першым я вярнулася. Паўгода пабыла ў сястры, а пасля мне запрапанавалі працу ў леснічоўцы, а фактычна ў доме паляўнічага на Падцэркві.

— І даўно вы ўжо на пенсіі? — пытаю ў цёткі Надзі, якую адшукала я праз дзесяць гадоў ад тае першай сустрэчы.

— А ўжо восем гадоў, — адказвае цётка. Сядзімо з ёю ва ўтульнай пярэдняй, перарobленай з веранды.



*Цётка Надзя з Белавежы.*

Цётка Надзя атрымала кватэру ў Дырэкцыйным парку зараз жа за Лясным тэхнікумам. За вакном шумяць дубы. Верасень дзевяноста чацвёртага.

— А гэты мішка чый? Вы, можа, дзіця якоесь даглядаеце? — не вытрымоўваю і мучу далей гэту жанчыну сваімі пытаннямі.

— Ды не! Калі ішла я ў леснічоўку, стала плакаць, што будзе сумна адной у лесе. Як жа я там буду, я ж адна ніколі не жыла. А сястра выцягвае мішку, якім яе дзеці гулялі, і кажа: „На, вазьмі, не будзеш адна!" І спала я з ім, і размаўляла, а цяпер, во бачыце, у мяне ён мух б'е, — усміхнулася цётка Надзя, бо і сапраўды, старэнькі мішка рассеўся на крэсле з мухалоўкай у лапах.

— А як вам працавалася ў леснічоўцы?

— Працы было, але была яна вельмі прыемная. Гатэль даглядзець, гасцей накарміць, прыбраць, пасцель каб чыстая была. Часамі, каб зарабіць дадатковы грош, працавала і цяжэй — і бялізну сама мыла, і дровы рубала. Сіл сваіх ніколі не шкадавала.

— Ну, а ад немцаў вы ніякіх грошай не атрымалі за тое, што былі вывезены і там працавалі?

— Мне нават і анкеты прыслалі, каб выпаўніла на тое, што была ў немца. Многія зрабілі гэта і грошы атрымалі. Я не пісала. А ну іх, з іхнімі грашыма! Я шчаслівая, што сама на сябе зарабіць цэлае жыццё магла. Маю пенсію, маю цяпер кватэрку. І мне добра.

— А ўсё ж загаловак будзе: „Два ручаі слёз", — кажу.

— Навошта аж так, — пярэчыць гаспадыня. — Напішыце проста: „Цётка Надзя з Белавежы".

**Ада Чачуга**
**Фота аўтара**

# 60 чалавек атрымалі працу!..

У рубрыцы „З мінулага тыдня" („Ніва" ад 2 кастрычніка г.г.) прачытаў я пра адкрыццё бельска-падляшскай фірмай „Фармбест" завода вытворчасці штучных угнаенняў у Семяноўцы. Не ўсё ў гэтай заметцы адпавядае праўдзе.

17 верасня гэтага года суполка з абмежаванай адказнасцю „Фармбест" у Бельску-Падляшскім адкрыла невялікае — як на сучасныя маштабы — прадукцыйна-гандлёвае прадпрыемства ў Плянце (а не ў Семяноўцы), што ў Нараўчанскай гміне. Знаходзіцца тут, на перагрузачнай станцыі, некалі спецыяльна пабудаваная доўгая рампа-пад'езд ля шырокай (рускай) чыгуначнай пуці. Сёлета, у рэкордным часе — тры з палова́й месяца — тут на пяцігектарнай плошчы пабудавалі вялікія склады, цэхі вытворчага прадпрыемства ды па-сучаснаму абсталяваныя офісы.

Зараз з Рэспублікі Беларусь, Украіны, Расіі і Літвы прывозяць сюды, між іншым, штучныя ўгнаенні. У Плянце робяць усялякія мяшанкі, названыя *плантавітамі НПК*. Са складоў можна купіць і тыя *плантавіты*, і штучныя ўгнаенні, апрача таго хвалісты шыфер, награвальныя чыгунныя прыборы, каменны вугаль і г.д.

„Фармбест" паклапаціўся пра стварэнне добрых умоў працы для 60 асоб (а не 50) — жыхароў перш-наперш Нараўкі, Плянты і Бельска. Кожны дзень з рэстарана ў Нараўцы прывозяць на завод абеды для ўсяго рабочага калектыву.

Варта адзначыць, што за імпартныя штучныя ўгнаенні суполка высылае ў рамках частковай платы, між іншым ахаладжальныя газіраваныя напіткі (выпускае іх адзін з буйных бельскіх заводаў), яблыкі, цыбулю.

Ва ўсёй гэтай справе найважнейшае ёсць тое, што ад нядаўна 60 чалавек мае занятак! Зараз у Нараўчанскай гміне зарэгістравана 330 беспрацоўных, у тым ліку 176 жанчын. Ужо дзвесце чалавек страціла права на дапамогу па беспрацоўі (заслак). Ужо 65 асоб безвынікова намагаюцца знайсці сабе працу, а пошукі працяргваюцца нават больш, чымсьці два гады. Многім пагражае доўгатэрміновае беспрацоўе.

Пакуль што плянтаўскае прадпрыемства — першае, якое адкрыла суполка „Фармбест". Жадаем далейшых поспехаў і новых месц працы для ўсіх беспрацоўных!

**Янка Целушэцкі**

# ЗАЯВА

У сувязі з тым, што настаяцель Дубіцкага прыхода, айцец Віталій Гаўрылюк аж двойчы прыязджаў да мяне з просьбай выбачыць М. Панфілюку за грубыя і непраўдзівыя паклёпы ў газетах ды зняважлівыя пісьмы дадому, заяўляю, што па-хрысціянску выбачаю сп. М. Панфілюку і прашу яго, каб перадаў маё прабачэнне свайму сябру, Уладзіміру Хіліманюку, якога я нават не ведаю, а які пісаў вельмі брыдкую хлусню на мяне, падмацоўваючы свае паклёпы тым, што ён мяне ведае, бо хадзіў са мною ў школу. Справа толькі ў адной дробязі, аб чым ён не ведае — я ніколі, ні пры санацыі, ні пры саветах у дубіцкую школу не хадзіў. Выбачаю абодвум, бо не ведалі, што рабілі, як і я не ведаў.

**ВАСІЛЬ ПЕТРУЧУК**

P.S. Пры нагодзе хачу некалькі слоў сказаць пра вельмі шаноўнага айца Віталія Гаўрылюка. Айцу Віталію ўсяго 39 гадоў, а ўжо шмат добрага зрабіў ён для тых прыходаў, у якіх служыў і служыць, ды для пасобных людзей. Варта пацікавіцца як цяпер выглядае дубіцкая царква, калі заняўся ёю айцец Віталій і варта паглядзець, як сёння народ праваслаўны (і не толькі), горнецца да свайго храма і да настаяцеля.

Айцец Віталій перажывае за кожнага чалавека, калі бачыць, што той сыходзіць з той дарогі, на якую паставіў яго Бог пры паяўленні на свет. З ім гаворыш — не нагаворышся і з кожнай хвілінай паддаешся яму, нібы гіпнатызёру, падвяргаешся ягонаму ўплыву ды растаеш, як воск — згаджаешся. Недахоп наш, на жаль, вялікі ў тым, што мы не ўмеем адплачваць дабром за дабрату. Вось адзін прыклад з жыцця. Сёлета айцец Віталій выратаваў тапельца, хаця сам ледзь не утапіўся, а за гэта ніхто яму дзякуй не сказаў. Ён нават не ведае, каго выратаваў. Калі б зрабіў гэта салдат або паліцыянт, атрымаў бы ўзнагароду. Я ўпэўнены, што айцу Віталію не пра ўзнагароду ідзе, але „дзякуй" сказаць за ўратаванне жыцця выпадае.

**В.П.**

# Славуты род Лукшаў

Да гэтых людзей я трапіў выпадкова. Якраз канчаліся курсы самаабароны для працаўнікоў пошты ў Гайнаўцы. Аўтамабіль майго сябра Аліка, другога паштара з Дубіч-Царкоўных быў заняты, пазычыў яго брат, каб паехаць купіць штосьці ў „рускіх" у Козліках. Мы дамовіліся, што Алікаў брат пад'едзе пасля за намі пад будынак колішняга павятовага камітэта партыі, дзе праводзіліся курсы. Праўда, паабяцаў нас забраць і адзін паштар з Кляшчэляў, але недзе знік... Чакаем, чакаем машыну, а тут ужо вечар, лупіць дождж. Алік урэшце кажа: давай пойдзем да бацькоў жонкі майго брата. Так мы трапілі на вуліцу Бельскую. Прывіталіся з гаспадарамі: чую чыстую беларускую гаворку. І ў хаце чыста, акуратна, пахне беларускім духам.

Аказалася, што гаспадар, Юрка і ягоная жонка Жэня ведаюць асабіста ўсіх працаўнікоў „Нівы", ведаюць і карэспандэнтаў — хоць бы Фёдара Хлябіча (маюць нават ягоныя некаторыя вершы ў арыгінале), ведаюць і прафесара Алеся Баршчэўскага, так як ягоны род і яго паэзію, ведаюць і Мірку Лукшу і яе літаратурны плён і працу ў „Ніве", і яе маці Зіну. На маё пытанне, ці ведаюць нашу „Аўрору", Ірэну Лукшу, адказалі, што яе таксама ведаюць, і яе маці Насцю, і пра няўдалае Аўрорына замужжа... Ведаюць і Сакрата Яновіча, і іншых...

Пытаюся гаспадара, Юрыя: „Дык вы, бачу, самы не з Гайнаўкі?" Праўда, пражываюць у гэтым горадзе толькі з 1980 года. Нарадзіўся Юрка ў 1937 годзе ў Баб'яй-Гары, пасля пасяліўся ў Луку, і жонка таксама з гэтых бакоў. Быў на многіх адказных пасадах, м.інш. быў шэфам чыгуначнай міліцыі ў Чаромсе, але нікому не „ўлез за скуру", усюды яго паважалі і любілі, ніколі не адракаўся сваіх беларускіх каранёў. Супрацоўнічаў з беларускімі гурткамі. Калі ліквідавалі вёску Луку, выбраў не Беласток, а Гайнаўку — бліжэй роднай мовы.

Залатыя ў яго рукі, як кажуць, знаецца на справе і сталярскай, і малярскай, і дойлідскай. Цяпер ужо на пенсіі... Калі так размаўляем, гаспадар бярэ тоўсты сшытак, запоўнены роўным, каліграфічным пісьмом. Цяпер так прыгожа рэдка хто піша. У гэтым сшытку Юрый запісвае свае метэаралагічныя назіранні. Лічыць, што гэта карыснае і цікавае хобі.

Я заўважыў, што ў такой беларускай хаце няма „Нівы". Праўда, Юрка любіць і чытаў наш тыднёвік, але неяк цяпер не мае на гэта часу. А „Ніва" ж павінна абавязкова быць пад страхой ягонай хаты! І яна можа быць хобі і радасцю, і павінен быць не толькі яе чытачом, але і карэспандэнтам! Спадар Юры і Жэня згадзіліся са мной, што „Ніву" павінен чытаць і распаўсюджваць кожны добры беларус. На іхніх паліцах я бачыў творы Віктара Шведа, беларускія календары. Чаму ж забыліся на „Ніву"? Ды і не толькі яны...

Пасядзелі мы за гарбатай, хаця пачалі крыху нецярпліўцца і непакоіцца — чамусьці не прыязджаў чаканы Алікаў брат Міхась, які са сваёй жонкай Тамарай — дачкой Юрыя і Жэні пасхалі ў Козлікі. А тут ужо дзесятая вечара! Усё закончылася добра, вярнуліся яны шчасліва, без прыгод. На развітанне я запытаўся гаспадара пра ягонае прозвішча.

— А як жа ж, я — Лукша!

**Мікалай Панфілюк**

# Два выданні аб Белавежы

Напрыканцы турысцкага сезона паявіліся новыя даведнікі аб аб'ектах Белавежскага нацыянальнага парку — аб Прыродазнаўчым музеі і Запаведніку прыроды.

Аўтарам даведніка аб музеі з'яўляецца ягоны былы шматгадовы кіраўнік, а зараз дырэктар БНП, д-р інж. Чэслаў Аколаў. У кніжачцы аўтар знаёміць чытача з гісторыяй музея, дае асноўныя інфармацыі аб паасобных стэндах, энцыклапедычныя звесткі аб Белавежскім нацыянальным і Палацовым парках. Наведванне экспазіцыі аблягчаюць два планікі дасціпна размешчаны на крыльцах вокладак. Кніжачка праілюстравана трыццаццю шасцю здымкамі Анджэя Антчака, Анджэя Кэчынскага, Збігнева Красінскага і Гжэгажа Аколава (сына аўтара даведніка, студэнта лясніцтва).

Аўтаркай брашуры аб Запаведніку прыроды з'яўляецца д-р Амэлія Кавэцкая, былы навуковы працаўнік Лабараторыі натуральных лясоў Інстытута даследавання лясніцтва ў Белавежы (зараз яна на пенсіі). У кніжачцы знаходзім кароткі гістарычны нарыс, асноўныя інфармацыі аб прыродазнаўчых умовах, расліннасці, праводжаных тут навуковых даследаваннях, а таксама аб дыдактыцы і турызме. Брашура праілюстравана планікам аб'екта і дваццаццю пяццю здымкамі Анджэя Антчака і Міраслава Бушко.

Абодва выданні выйшлі тыражом па тысячы экземпляраў. Выдаваліся яны з фінансавай дапамогай Нацыянальнага фонду аховы асяроддзя і воднай гаспадаркі ў Варшаве. Цяпер рыхтуюцца іншамоўныя версіі брашур.

**Пётр Байко**

# ПЕРШЫЯ КРОКІ

З навейшай гісторыі ведаем, што супрацоўніцтва паміж прэзідэнтамі і парламентамі розных краін не заўсёды складаецца карэктна. Асабліва востра гэта праблема выяўляецца ў тых краінах, якія нядаўна сталі на шлях дэмакратыі і якія толькі што пачынаюць ствараць падмуркі прававой дзяржавы. Гэтая з'ява не абмінула і Беларусь, а прыкладам гэтага можа быць апошняя сесія Вярхоўнага Савета.

XVI сесія ВС атрымала на разгляд ад прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі праекты антыкрызіснай праграмы і змяненняў у закон аб мясцовым самакіраванні. Нowaабраны прэзідэнт імкнецца ператварыць Беларусь у прэзідэнцкую рэспубліку і прапанаваныя ім рэформы напраўлены на стварэнне і ўмацаванне вертыкалі прэзідэнцкай улады. Ужо ў першы дзень сесіі прэзідэнт прапанаваў, каб антыкрызісную праграму не ўхвалялі, а толькі далі яму права ажыццяўляць яе некаторыя палажэнні з дапамогай указаў. Парламентарыі, аднак, прапанову адкінулі, праграму ўхвалілі і надзвычайных паўнамоцтваў прэзідэнту не далі, а ў дадатак на працягу двух дзён паставілі яму шмат нялёгкіх пытанняў.

Відаць, гэта ўсё не вельмі спадабалася прэзідэнту, паколькі з яго вуснаў пачуліся пагрозлівыя выказванні ў адрас парламента. А вострыя словы сказаў ён падчас візіту ў родны Шклоў. На пытанне журналіста, як прэзідэнт будзе дзейнічаць, калі Вярхоўны Савет не ўнясе ў закон аб мясцовым самакіраванні тыя змяненні, якія ён прапанue, Лукашэнка адказаў даволі эмацыянальна і агрэсіўна. Заявіў ён, што, нягледзячы на вынікі галасавання, прэзідэнцкую вертыкаль створыць усё роўна. Дадаў таксама, што разганяць парламент не будзе, але і не будзе яго фінансаваць, а тэмпературу ў будынку парламента зробіць на 12°С, як у кватэрах грамадзян, каб дэпутаты адчулі, што гэта такое. „Няхай варацца ва ўласным соку, калі хочуць ваяваць з усенародна абраным прэзідэнтам", — сказаў ён у заканчэнне і дадаў яшчэ, што больш у Вярхоўны Савет не пойдзе.

З гэтых слоў можна было меркаваць, што канфлікт прэзідэнта з парламентам стаў рэальнасцю. На другі дзень, аднак, землетрасенне не адбылося. На сесіі адзін дэпутат выступіў з заклікам да прэзідэнта быць вышэй розных крытыкаў, а іншы звярнуўся да парламентарыяў з просьбай не ставіць палкі ў колы палітыцы прэзідэнта. А ў перапынку адбыўся брыфінг, на якім начальнік Упраўлення грамадска-палітычнай інфармацыі Адміністрацыі прэзідэнта Аляксандр Фядута аспрэчыў чуткі аб супрацьстаянні паміж парламентам і прэзідэнтам. Заявіў ён, што Аляксандр Лукашэнка ідзе не шляхам канфрантацыі, а супрацоўніцтва з Вярхоўным Саветам. Ухваленне парламентам праграмы неадкладных мер па вываду краіны з эканамічнага крызісу назваў ён першай перамогай прэзідэнта. Тое, што ВС не даў прэзідэнту права ажыццяўляць яе з дапамогай указаў сведчыць, на яго думку, што парламент узяў і на сябе адказнасць за яе рэалізацыю. Каментуючы заяву прэзідэнта аб тым, што ён не будзе з'яўляцца на пасяджэннях сесіі ВС, Аляксандр Фядута сказаў, што прэзідэнту неабавязкова знаходзіцца на ўсіх пасяджэннях парламента. Ён будзе прысутнічаць там толькі тады, калі будуць абмяркоўвацца найбольш важныя пытанні, звязаныя з дзейнасцю прэзідэнта і ўрада.

Два дні пазней Аляксандр Лукашэнка з'явіўся на сесіі, паколькі абмяркоўваўся праект змяненняў і дапаўненняў у закон аб мясцовым самакіраванні і мясцовай гаспадарцы. У ходзе дыскусіі над праектам адзін з дэпутатаў ад апазіцыі заўважыў, што ніякай рэформы ўлады не адбудзецца, бо наменклатура, якая раней з камітэтаў партыі перабралася ў саветы, цяпер з саветаў перабярэцца ў прэзідэнцкія структуры. На такое выказванне прэзідэнт Лукашэнка адрэагаваў даволі рэзка і, падкрэсліўшы, што старыя наменклатуршчыкі працавалі сумленна, назваў іх мазгавітымі людзьмі. Прыгадаў ён яшчэ, што калі б да ўлады прыйшоў Пазьняк, ён бы ўсіх іх выразаў пагалоўна (пасля пратэсту лідэра БНФ прэзідэнт у заключным выступленні прынёс словы просьбы прабачэння за няўдалае выказванне).

Становчае стаўленне да наменклатуры, як мяркуюць многія палітычныя аглядальнікі, вельмі паўплывала на адабрэнне парламентам прэзідэнцкага праекта змяненняў у законе аб мясцовай уладзе. Такі ход галасавання задаволіў прэзідэнта і ён падзякаваў дэпутатам за тое, што зрабілі першы крок над той бездані, у якую яны ледзь не ўпалі ў першыя дні сесіі. Прэзідэнт Лукашэнка выказаў спадзяванне, што народныя дэпутаты разам з ім зробяць і другі крок па рэфармаванню ўлады, дапамагаючы яму стварыць прэзідэнцкую вертыкаль.

XVI сесія Вярхоўнага Савета паказала, што недавер наменклатурнай парламенцкай большасці да прэзідэнта растаў. Прэзідэнт таксама зразумеў, што сіламі толькі сваёй сціплай каманды не ўдасца яму стварыць прэзідэнцкую вертыкаль і ўмацаваць свае структуры, і, памятаючы папярэднюю насцярожанасць дэпутатаў, даў знак мазгавітым людзям з наменклатуры, што знойдуць яны свае месца ў новых структурах улады. „Мы ўсе ў адной лодцы і павінны грэбці ў адным накірунку", — падкрэсліў Лукашэнка на пасяджэнні перад ухваленнем закона аб мясцовай уладзе і, як сведчаць вынікі галасавання, дэпутаты добра расшыфравалі замыслы прэзідэнта.

**Віталь Луба**

# Новая знаходка пра Усяслава Чарадзея

Даследчыца Марыя Ліннікава знайшла ў маскоўскім Цэнтральным архіве старажытных актаў цэлую старонку апавядання пра Усяслава полацкага князя, вядомага як легендарны Чарадзей.[1]

Знаходка Марыі Ліннікавай замацоўвае яшчэ гэту легенду. На знойдзенай старонцы расказваецца пра суіснаванне ў Полацкай зямлі язычніцтва і хрысціянства, але і змаганне між двумя рэлігіямі. Князь адначасова займаецца чарамі і дае малітву (але так ці інакш сцягвае дождж), або кліча на супольную параду жрацоў і святароў. Самы цікавы расказ тычыцца паганскага бунту супраць маладога князя (пры нагодзе пацвярджаецца існаванне ў Полацку ў той час епіскапства). Апавяданне абрываецца на расказе аб цудоўных пачатках пабудовы ў Полацку сабора святой Сафіі.

Даследчыца наогул удала расчытала і пракаментавала знойдзены тэкст, хаця некаторыя тлумачэнні выклікаюць засцярогі.

І так, раздзяляючы словы „отвеща" на „от веща" (ад вястуна) быццам бы не заўважыла, што раней выступае сказ „Отвещав Сеслав рече (...)", які таксама можна прачытаць за ёю: „От веща Всеслав рече (...)".

Аўтарка не звярнула таксама ўвагі на з'яўленне на гэтай самай старонцы бацькі Усяслава раз як „Бренчислав", іншым разам як „Брячислав". Вядома, гэта можа быць вынік агаворкі, але таксама добра можа паказваць на існаванне першапачатковага насавога гука пасля „р" у імі князя.

У беларускім перакладзе як уласнае імя выступае слова „Волх", хаця ў арыгінале ёсць проста „вълк" (або „вълх").

Усё-такі галоўным недахопам каментарыя з'яўляецца недастатковая ўвага для расказу пра Усяслававу дружыну. Аўтарка спярша ўдала прачытала „Варяг же есть с дружиною малою, числом 90 и 9, един верьн сый (...)" як „Варяг же эстин (...)", але палічыла слова „эстин" уласным імем Эсцін.

На маю думку, „эсцін" гэта этнонім, абазначае тут „эста", падчас як „варяг" абазначае прафесійнага ваяра. Калі гэта так, дык трэба ўспомніць гіпотэзу М. Ермаловіча, які мяркуе, што маці Усяслава паходзіла з фінскага племя водзь, якое жыло на берагу Балтыйскага мора.[2] Да водзі ўцякаў Усяслаў пасля паражэння і з ёй набіраў войска. Водзь, як фінскае племя, магло асацыявацца ва ўяўленні аўтара апавядання з такімі ж фінскімі эстамі.

У апавяданні Усяслаў кажа сваім варам: „Дружына харобрая, адзінакроўная". Гэта можа значыць, што Усяслаў быў варагам (калі лічыць варагаў племем). Усё-такі можна таксама здагадвацца, што Усяслаў меў на ўвазе кроў сваёй маці, з якой пэўне ж і прыйшла ў Полацк малая, але верная дружына.

Так ці інакш, знойдзеная М. Ліннікавай жамчужына надзвычайна ўзбагачае нашыя сціплыя веды аб раннім сярэднявеккі ў Беларусі. Выпадковасць гэтай знаходкі (падкрэсленая самай даследчыцай) падтрымоўвае надзею на тое, што знойдзецца „сокровище сокровищ" нашай гісторыі — „Полацкі летапіс".

**Алег Латышонак**

---------------

*1/ М. Ліннікава, Новае пра Усяслава Чарадзея, „Спадчына", н-р 3, 1994, с. 69—71.*

*2/ М. Ермаловіч, Старажытная Беларусь. Полацкі і новагародскі перыяды, Мінск 1990, с. 129.*

# ПРЭЗІДЭНТЫ

Падчас выбарчай кампаніі ў Беларусі, а нават яшчэ сёння можна пачуць, што Аляксандр Лукашэнка — гэта беларускі Жырыноўскі. Не ведаю, як Лукашэнка ставіцца да Жырыноўскага, але ў нічым або амаль у нічым яго не нагадвае. Прэзідэнт Беларусі перш за ўсё ні імперыяліст, ні шавініст. Не збіраецца ён, так як Жырыноўскі, дзяліць чужыя дзяржавы ці вырашаць лёс суседніх народаў. З лідэрам Ліберальна-дэмакратычнай партыі Расеі спалучае яго толькі зацікаўленне парапсіхалагічнай літаратурай і метадамі палітычнай барацьбы за ўладу. На практыцы абазначае гэта, што трэба гаварыць людзям тое, што яны хочуць пачуць. Але каб ведаць, чаго людзі хочуць слухаць, трэба пазнаць, што скрываецца ў іх нутры. Палітычныя здольнасці і інтуітыўнае распазнанне псіхалогіі грамадства гэта замала, каб дасягнуць такі поспех, які атрымаў Лукашэнка на прэзідэнцкіх выбарах. Народ паверыў яму, як нейкаму здаўна чаканаму збаўцу. Заканамернасць характэрная Усходняй Еўропе гэта ці выпадковасць?

Калі, аднак, шукаць падабенстваў у Лукашэнкі да кагосьці з вядомых палітыкаў, дык найбольш ён нагадвае прэзідэнта Польшчы Леха Валэнсу. Адзін і другі зрабілі ашаламляльную палітычную кар'еру, пра якую можна дагэтуль было толькі прачытаць у нейкай казцы. Рабочы і адміністратар калгаса, не кіруючыя раней ніякай дзяржаўнай структурай, рашыліся непасрэдна ўзяць найвышэйшы пост у сваіх краінах. Выбарчую кампанію вялі яны, змагаючыся перш за ўсё з кандыдатамі са свайго лагера (Мазавецкі, Кебіч). Адзін і другі гаварылі пра зладзеяў, якія раскрадаюць дзяржаву і абяцалі ўсіх іх вылавіць, пакараць і канфіскаваць іхнюю маёмасць. Абяцалі навесці парадак і справядлівасць, а добрасумленным, высакародным і прафесіяналам даць уладу. Ні Валэнса, ні Лукашэнка, пачынаючы свае кар'еры, не мелі ніякіх праграмаў ні канцэпцыі палітычнага ці эканамічнага ладу ў сваіх дзяржавах. На практыцы кіраванне аказалася імправізацыяй, залежнай ад варункаў, якія існуюць у даны момант на палітычнай сцэне. Мяняюць яны людзей, хваляць тое, што ўчора крытыкавалі і наадварот — крытыкуюць тое, што ўсхвалялі. Усе лозунгі, якія гучалі падчас выбарчай кампаніі, месяц пазней апынуліся на сметніку гісторыі, як нічога нявартыя.

Валэнсу і Лукашэнку перш за ўсё імпануе ўлада. Яна для іх — мэта сама ў сабе. У Польшчы ўжо трэці год вядзецца дыскусія, ці прэзідэнт павінен мець больш улады чым урад і парламент разам. У Беларусі Лукашэнка мае ўжо ўладу не меншую, чым манарх у сярэдневяковай дзяржаве, але ўсё яшчэ дамагаецца пашырэння паўнамоцтваў так, каб мець магчымасць уплываць на ўсе галіны грамадскага жыцця. Найгоршае тое, што ён не ведае нават як выкарыстаць уладу, якую дае яму канстытуцыя. Адсутнасць ідэі дзяржаўнага парадку, праграмы гаспадарчай рэформы вядзе да нервовых жэстаў, непрадуманых выказванняў, асмяшаючых высокі пост і беларускі народ у вачах суседзяў. „Беларусь — краіна агуркоў" — пішуць тады маскоўскія газеты.

Шмат што, аднак, адрознівае Валэнсу і Лукашэнку. Валэнса з'яўляецца сімвалам патрыятызму і незалежнасці сваёй дзяржавы і народа. Гэтага ў ніякім выпадку нельга сказаць пра прэзідэнта Беларусі. У карысць Лукашэнкі можна аднак сказаць тое, што гаворыць ён вельмі лагічна і пераканаўча і ніякі беларускі Урбан, цытуючы яго выказванні, не будзе мець нагоды да пастаянных здзекаў з „бацькі народа". Супрацоўнікі прэзідэнта Беларусі маюць менш нагод паясняць грамадству, што іх шэф думаў і што хацеў сказаць. Дарэчы, сам прэзідэнт у сродках масавай інфармацыі не ляну ецца расказваць пра свае праблемы. Гэтыя выступленні не маюць высокага ўзроўню абстрактнасці, так характэрнага палітыкам заходніх краін. Мова Лукашэнкі (расейская) — простая і зразумелая, напоўненая зместам слоў і паняццяў, якімі карыстаюцца рабочыя, салдаты, бюракраты, калгаснікі. Выглядае на тое, што прэзідэнт так думае, як гаворыць. Ён на свой спосаб шчыры. Праблемы Беларусі аднак надта складаныя, каб рашаць іх паводле калгасных схемаў.

Прэзідэнт Валэнса толькі на пачатку кадэнцыі хацеў збаўляць эканоміку і раздаваць грамадзянам мільёны. Пасля займаўся ўсім, толькі не гаспадаркай. І за гэта палякі павінны быць яму ўдзячны. Лукашэнка толькі пачаў фінансавыя эксперыменты і зараз жа выклікаў паніку сярод прадпрымальнікаў. Цяжка прадбачыць, што будзе далей, але здаецца, што прэзідэнт Беларусі не збіраецца ісці следам Леха Валэнсы і адмаўляцца ад кіравання гаспадарчымі працэсамі сваёй краіны.

**Яўген Мірановіч**

# СПРАВА МЯЛЕШКІ

### Замест уступу

— Я бы гэтых Мялешкаў усіх... — сычэў, заціскаючы спектакулярна кулакі, недапіты „грыбнік".

— А я тых, што „жондзяць" павывешваў бы, — крычаў нехта з кампаніі.

— Мы не галасавалі ні на радных, ні на Валэнсу. Цяпер хаця сумленне не мучыць, — чуліся галасы з узбуранага натоўпу побач піўной.

Прадчуваю, што тут „павесілі ды зарэзалі" не аднаго вядомага чалавека. Дасталася і мне.

— А на х... мне гэтая пісаніна ў „Ніве". Пачалі б пісаць па-польску, то прынамсі прачытаць было б можна. Па-руску нам не трэба! А такі адзін „беларус" „труў" нам пра Хадкевічаў на „Басовішчы". На х... мне яго Хадкевічы, падумаў я ў душы, але выслухаць выслухаў, бо „беларус" піва фундаваў, — гарланіў кудлаты, ледзь прытомны ад перапою, малойчык.

— Ідзіце лепш на грыбы, — кінула я ў той бок, адышоўшы на бяспечную адлегласць.

Уздагон мне бег атлет з папяросай у зубах. „Пані се не гнева, мы трохэ пжэгелі", — тлумачыўся.

— Грыбы з дня на дзень таннеюць, а жыць трэба, — дадаў сумна „грыбнік".

Зараз грыбы для гэтых хлопцаў — адзіная крыніца заробку. На скупцы за кілаграм выходзяць ім 4 бутэлькі піва.

### У чым справа?

*W „Przeglądzie Prawosławnym" nr 7/94 w notatce „Po wyborach" przedstawiono nieprawdziwe wyniki wyborów w Gródku.*

*Białoruskie Zjednoczenie Demokratyczne wprowadziło na radnych tylko 12 osób a nie jak piszecie — 18. Komitet Społeczny „Razem" — 5 osób, w tym 3 osoby wyznania rzymskokatolickiego. Nieprawdą jest także to, że Gródek jest tradycyjnie białoruski. Faktycznie, gminę Gródek zamieszkuje w większości ludność wyznania prawosławnego. Nie świadczy to jednak o ich przynależności narodowej.*

*Wasze twierdzenie jest bezpodstawne...*

*Radny Stacji Waliły*
*Dariusz Mieleszko*

Па тэлефоне радны Мялешка скантрэтызаваў мне свае выказванні:

— Mieszkamy w Polsce, więc to chyba oczywiste, że jesteśmy Polakami.

Паняцце „паляк праваслаўны" ў Гарадоцкай гміне малавядомае.

— Гэтага

### беластоцкага „цуда" ў нас няма.

Радны Мялешка выхаваўся ў Беластоку і пэўна адтуль паняцце „polak prawosławny" перанеслася да нас. Ён мае вышэйшую адукацыю, аднак некрытычна ўспрымае той свет, які апісваюць у беластоцкіх „Kurierach" і падае тэлебачанне, — пракаментаваў старшыня Таварыства сяброў Гарадоцкай зямлі Лявон Тарасэвіч.

— Я не сустрэўся з тым, каб нехта з маіх прыхаджан лічыў сябе праваслаўным палякам. Я таксама гавару пропаведзі па-беларуску і папулярызую родную мову на ўроках рэлігіі, размаўляю з прыхаджанамі, — здзіўляецца настаяцель Гарадоцкай парафіі айцец Астапчук.

Ксёндз місійнай парафіі ў Гарадку на пачатку старанна праверыў мае дакументы, пацікавіўся тэмай маіх доследаў, урэшце прыгадаў сабе, што інтэрв'ю журналістам не дае.

— З паняццем „паляк праваслаўны" я тут не сустрэўся, аднак у час выбарчай кампаніі я заўважыў, што людзі не ведалі, якой яны нацыянальнасці. Ёсць іх, праўда, не многа. Такім то нават выгадна жыць на свеце, схіляюцца то ў адзін, то ў другі бок, — сказаў радны Адамік, солтыс Гарадка.

— Пан Мялешка з'явіўся тут не так даўно. Раней прыязджаў сюды да сваёй бабкі і пэўна заўважыў, што тут жывуць беларусы. Дзіўная справа, што зараз не бачыць таго, што відаць голым вокам, — дадаў старшыня БДА ў Гарадку Аляксандр Карпюк.

Радны Мялешка не хацеў выказвацца для „Нівы".

— Ja chciałem z początku naprawdę szczerze z panią porozmawiać, ale pani szczeka tu po Gródku, że ja coś napisałem.

### Miesza tu pani kulturę białoruską!!!

Паводле Мялешкі беларуская культура і традыцыі нічога супольнага з сабой не маюць.

— Гэта няпраўда, — гаворыць Аляксандр Карпюк, — на голым полі нішто самое не вырасце. 40 гадоў існуе тут беларускі хор, ёсць „Басовішча", у школе выкладаецца беларуская мова. Не гавару ўжо аб тым, што сказалі б архівы пра традыцыі Гарадка.

— Каб гэты радны ведаў, што ўжо Хадкевічы пісалі свае дакументы на старабеларускай мове, што Кастусь Каліноўскі, які родам з Гарадоцкай зямлі, тут у лесе выдаваў „Мужыцкую праўду", каб прачытаў хаця адну карэспандэнцыю ў „Нашу ніву" Арла, які ўжо тады перажываў за тое, што ёсць людзі, якія не шануюць сябе, бацькоў, сваёй мовы і культуры. У ваенныя часы Аляксей Карпюк, вядомы беларускі пісьменнік родам са Страшава, назваў свой партызанскі атрад імем Кастуся Каліноўскага. Сёння таксама ў Гарадку аж тры асобы пішуць вершы якраз па-беларуску. Калі пра палітычную дзейнасць, то ўсім вядома, што беларусы ў Гарадку ўжо другі раз перамаглі на выбарах. Гэтаму раднаму магу параіць, каб прачытаў гісторыю Грамады. Тады такія вёскі як Страшава ці Случанка поўнасцю ўдзельнічалі ў беларускім палітычным руху. Я толькі хацеў бы, каб гэты радны напісаў гісторыю польскай традыцыі ў Гарадку, — сказаў Лявон Тарасэвіч.

— Калі пачаць разглядаць з дзеда-прадзеда ўсе тут традыцыі і гістарычныя рысы, то вядома, якія яны. Не польскія яны ж. Ад пачатку Гарадок быў беларускі, — сказала Тамара Бурачэўская, — дырэктар Дома культуры імя Кастуся Каліноўскага.

— W Gródku 1/4 to Polacy. Często

### czuli się tu zastraszeni.

Nie mogło dojść tu do powstania polskiego zespołu. Polacy autentycznie są tu mniejszością. Ja podam przykład, taki sprzed lat, za komuny. Na zebraniu Rady Gminnej rozmawiano o konkordacie czy Papieżu. I w trakcie dyskusji jeden z mieszkańców wstaje i mówi po białorusku, czy po rosyjsku, że on uważa, że powinniśmy zrobić jak w Związku Radzieckim: za mordę i po problemie. Jest to więc wymowny przykład mentalności i skutków dziesięcioleci komuny, — сказаў Эдвард Валошын, лідэр кааліцыі „Разам".

— Я не спаткалася з такім чымсьці, што нехта з палякаў прыйшоў да мяне і сказаў, што тут ім чагосьці бракуе. Гарадоцкі хор у сваім рэпертуары мае польскія, украінскія і рускія песні. У Доме культуры працуюць два польскія рок-гурты, існуе дзіцячы польскі хор, які выступае і на беларускім агляддзе ды заняў I месца. Мы жывем у Польшчы і падпарадкоўваемся пэўным прынцыпам, — сказала Тамара Бурачэўская.

### Хто за тым стаіць?

Напачатку Мялешка заявіў, што прадстаўляе кааліцыю „Разам". Эдвард Валошын адмежаваўся ад сказанага Мялешкам. „Nie chcemy żadnych fanatyzmów, — сказаў ён. — Choć myślę, że sprawa zasługuje na rozgłos". Пры нагодзе хацеў бы высветліць усе балючыя праблемы, якія вынікаюць ад „цяжкага супрацоўніцтва" з БДА. „Tacy radni jak pan Mieleszko chcieli coś zrobić dla gminy i dlatego szli do wyborów z „Razem", — сказаў Эдвард Валошын — адзін з заснавальнікаў гэтай польска-беларускай кааліцыі.

### У Гарадку гавораць, што

радны Мялешка хацеў купіць лячэбніцу, ў Валілах-Станцыі. Якраз радныя ад БДА не згадзіліся, каб лячэбніца перайшла ў прыватныя рукі аднаму ўласніку. Тады праўдападобна пачалася яго апазіцыя да БДА і беларускасці.

— Mogę tu się rządzić, jak mi się podoba! Ja rozmawiałem z tymi osobami, z którymi pani rozmawiała, — крычаў радны Мялешка, „выкідаючы" мяне з гэтай жа лячэбніцы.

Войт Гміны Гарадок Яўген Семянюк сказаў толькі: „Я гэты факт каментаваць не буду. Пан Дарыюш Мялешка як радны і як прыватная асоба мае права выказваць свае думкі. У час плюралізму кожны можа лічыць сябе кім хоча, хаця думаю, што ў гэтай справе радныя разбяруцца паміж сабой на сесіі".

**Ганна Кандрацюк**

# Бардаўская восень

*Працяг са стар. 1*

— *Нават, калі напішуць дрэнна?*

— Усё роўна будзе гэта доказ, што нас немагчыма праігнараваць, што мы не зачыняемся з нашымі праблемамі ў сваёй „рэзервацыі", а іграем нейкую ролю ў культурным жыцці гэтай зямлі.

Дай Божа, каб „Бардаўская восень" не аказалася горшай за „Басовішча". Мы звязваем яе з Бельскам, але калі б імпрэза пераплюнула арганізатараў — чаго нам вельмі хочацца — можна было б надаць ёй характар агульнабеластоцкі, г.зн. арганізаваць па ўсёй Беласточчыне, у розных мясцовасцях. Але гэта ўжо далейшая будучыня.

— *Дзякуй за размову. Жадаю ўдачы.*

— Да сустрэчы 29—30 кастрычніка ў Бельскім доме культуры.

**Гутарыў**
**Мікола Ваўранюк**




# З адзінак складаецца грамадства

Прачытаўшы допіс Міхася Махнацкага ў „Ніве" ад 25 верасня г.г., я ўсміхнулася пры апошнім яго вывадзе. Не толькі Беласточчына жыве, жывуць і іншыя рэгіёны, як і цэлы свет!

Калі гаварыць пра зацікаўленне літаратурай, ды ўвогуле жыццём іншых, — гэта ў грамадстве занікае. Калі ўжо нешта чытаюць, то кніжкі замежных аўтараў і на вельмі абмежаваныя тэмы. А найменшая папулярнасць хіба ў кніжак беларускіх аўтараў у Польшчы. Зацікаўленне „Нівай" таксама вельмі малое. Дай Бог мне ў гэтым памыляцца, і рада была б я вельмі, калі б нехта даказаў мне, што беларусы прабудзіліся і цікавяцца родным.

Мае замалёўкі з жыцця не маюць нічога супольнага з літаратурай. Я паказваю шэрае жыццё адзінак. Добра ведаем, што калі пакутуе цэлае грамадства, жыццё адзінкі мае малое значэнне, але гэта з адзінак складаецца грамадства. Вядома, каго іншага можа датычыць тое, што хтосьці там памёр ці кагосьці пакінуў. Гэта справа іншай сям'і, а ў нашай сям'і ўсё пакуль што добра... Але вельмі часта беды адзінкі — гэта беды ўсяго грамадства.

На горадзе Г. ходзіць дзяўчына. Прыгожая. Здавалася б, нічога ёй не бракуе. І быццам бы нічога дрэннага не робіць, толькі затрымлівае машыны на вуліцы і просіць у шафёраў бутэлькі. Яна іх збірае і прадае. Добра, што вадзіцелям удаецца затармазіць, бо не раз магла быць бяда. Тая дзяўчына заходзіць і на аўтобусныя прыпынкі, у аўтобусы, на вакзалы, і просіць 10 тысяч на білет. Спачатку грошы ёй давалі, цяпер адусюль праганяюць. Умее нават забегчы ў адкрытую чужую кватэру і выбраць з халадзільніка харчы. Спачатку, як толькі яна захварэла, гэтак не рабіла. Фінансавая сітуацыя ў яе сям'і не ёсць кепская, — маці ў яе пенсіянерка, і на дачку таксама ёй даюць грошы. Цяпер людзі пачынаюць баяцца, што дзяўчына стане агрэсіўнай, і пакуль яе возьмуць у бальніцу, зробіць каму-небудзь крыўду. А розум страціла праз хлопца. Яна яго кахала, а ён зрабіў над ёй насмешку. Калі пакінуў, не вытрымалі нервы дзяўчыны. Колькі такіх выпадкаў ва ўсёй краіне! А колькі з гэтай прычыны самагубстваў, не толькі сярод маладых! А гэта ўжо справа цэлага грамадства.

Калі ў нейкай сям'і злоўжываюць алкаголем, таксама нікога гэта не цікавіць — п'юць жа за сваё. Што там, што іхнія дзеці голыя ды галодныя! Калі ў такой сям'і пачынаюць красці ды перашкаджаць суседзям, тады іх заўважаецца. Суседзі хочуць, каб іх перасялілі ў іншы будынак ці пасадзілі ў турму, і праклінаюць абыякавыя адносіны ўладаў да гэтай справы. У грамадстве шмат трагедый. Ёсць не адна тысяча калек, якімі трэба займацца як немаўлятамі, ёсць псіхічна хворыя, якіх поўныя бальніцы, але шмат іх жыве чужымі сярод здаровых людзей.

Ёсць зладзеі і ашуканцы, ёсць і бандыты. Выводзяцца яны не толькі з паталагічных сем'яў. Ёсць людзі, якіх бяда ўзмацняе, іншых бяда руйнуе, даводзіць да дэгенерыцыі. Усе гэтыя справы адбіваюцца на жыцці ўсяго грамадства. Каму жывецца добра, той абыякава адносіцца да такіх спраў.

Чаму пішу свае гісторыі з жыцця людзей? Каб чытачы задумаліся над жыццём увогуле, каб, гледзячы на чужое няшчасце, стараліся адносіцца да чужых людзей як да членаў сваёй сям'і. Не думаю тут аб нейкай фінансавай дапамозе ці падарунках пакрыўджаным лёсам, але хоць аб добрым слове.

**Аўрора**

# ЗОРКА
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

З вучнёўскай творчасці

## ЛЕТНІЯ ЎСПАМІНЫ

Здаецца, нядаўна канікулы пачаліся,
А ад іх ужо толькі ўспаміны засталіся.
Яны, быццам птушка, праляцелі
У памяці, толькі крыламі зашумелі.

Як успомню сонца гэта,
З маёй памяці не ўцячэ лета,
Цёплае, залатое,
Лета маладое!

А калі ўспомню летнія спякоты,
Не пакінуць мяне маёй радасці ноты,
Гэтыя гарачыя хвіліны.
Засталіся ў маім сэрцы ўспаміны...

**ЮРКА БУЙНЮК,**
**Маліннікі**

*Станіслаў Валодзька*

**СОМ**

Вось прысніўся саму
Дзіўны сон:
Падарылі яму
Парасон.

Сом глядзеў —
Акуляры надзеў:
Эх, шкада,
Што ў вадзе
Дождж не йдзе!

**БАБА-ЁЖКА**

— Наш Алежка ўжо у ложку, —
Больш не стукай, Баба-Ёжка!
Ты лепш вулкі падмяці
І у лес сабе ляці!




*Выступаюць вучні са школы ў Ягуштове (Аўгустове).* **Фота М. Ваўранюка**

## Урокі
## мовы

Чалавецтва канца XX стагоддзя ўсведаміла вечную каштоўнасць непаўторнай мазаікі нацыянальных культур. Так што мы ўчынілі б страшэнны грэх і перад сваімі продкамі, і перад чалавечай цывілізацыяй увогуле, калі б адмовіліся ад нашай мовы. Можна было б шмат разважаць над тым, што мова кожнага народа — гэта непаўторны Сусвет, але я лепш прапаную перакласці на іншую мову — захаваўшы адценні сэнсу, асацыяцыі і сугуччы — словы „матчына мова", „неруш", „znічка", — хоць іх для пачатку.

А тым, хто лічыць, што беларуская мова — гэта толькі для ўсялякага там прыгожага пісьменства і паэтычных слоў, тым, хто ўважае, што дарога да поступу ляжыць толькі праз „вялікія" мовы, адкажу ўспамінам. Успамінам пра хлопца-праграміста, які ладнатакі пасядзеў над камп'ютэрам (у старабеларускай мове XVI стагоддзя было слова „кампутар" — лічыльнік), але прымусіў яго выдрукоўваць беларускае „ў"! Дык вось, мне здаецца, што хлопец той праграмуе нашу будучыню — будучыню, вартую народа.

**Вінцук Вячорка**

## ГАРБУЗ І ЯБЛЫНЯ

Ляжаў у баразне Гарбуз. Нацягнуў ад сонца картуз, ляжыць — не дзьме ў вус. Сонейка прыпякае, а ён вакол пазірае ды ад ляноты пазяхае. Замлеюць бакі ад лёжкі, яму б паварушыцца трошкі, павярнуцца на бачок спелы, ды лянота заела.

А побач Яблыня стаяла, на голлі яблыкі люляла. Убачыў яблыкі Гарбуз — ад зайздрасці ледзь не зваліўся картуз. Мауляў, як гэта, чырванашчокія: я — у баразне, а вы — вышэй за мяне, пад аблокамі? То ж даў Бог ляжачую долю. А хіба б я вісець не змог — не здолеў?

Раззлаваўся Гарбуз, закалаціўся, бы ў землятрус, да Яблыні падкаціўся, як калабок, галаву ўзняў.

— Што ты хочаш, мілок? — запытала Яблыня, перастаўшы рыпець.

— На галінках тваіх павісець.

— А калі сарвешся, Гарбуз, ды наб'еш сабе гуз?

— Што будзе, тое будзе. Калі і ўпаду, то на дол.

— Калі так ужо хочаш, чапляйся за ствол...

І палез Гарбуз па ствале спакваля, і ўсё далей і далей адплывала зямля. І вось між галля ўжо разлёгся Гарбуз: пагляздзіце, мауляў, што зусім я не трус.

Так Гарбуз вісеў, пакуль не абсыпаліся лісточкі ўсе як адзін з яблыневых галін. І яблыкі пападалі на дол. Глядзіш, застаўся адзін, як сакол.

Ад самоты Гарбуз скіс. Захацелася і яму ўніз. Не вісець жа аднаму. І таму грымнуў Гарбуз вобзем — ды так, што раскалоўся частак на восем. Эх, бедны, бедны...

Вось і ўся казка на гэтым.

А чаму ў ёй навучыцца можна — хай падумае кожны.

**Анатоль Зэкаў**

## ДОБРЫ ХЛОПЕЦ ДЗІК

**20**

### СВАРКА З РУДЫМ САБАЧКАМ (3)

Брэх жоўценькага дасягнуў найвышэйшых нот трывожнага накалу, Дзік пад носам у яго завярнуўся, уціснуў хвост і на такой жа хуткасці пачаў уцякаць.

Тут выказалася неадольная ўласцівасць сабачай натуры: глядзець на таго, хто ўцякае, і не кінуцца наўздагон — звыш сабачых сіл.

Жоўты сабачка кумільгом скаціўся з прыступак і ўлёг за ўцекачом. Калі ён адбег крокаў на дзесяць ад дома і, поўны ваяўнічага запалу, ледзь не хапаў Дзіка за ногі, той раптоўна стаў і спружыніў на лапах. Разявіў сваю велізарную пашчу — ад здзіўлення я не мог падаць голасу і заплюшчыў вочы, — але вельмі далікатна ўзяў малога за каршэнь, патрос у паветры і, не зрабіўшы ніякай шкоды, паклаў на траву. Той віскнуў і застаўся ляжаць на спіне з падагнутымі лапамі, што абазначала поўную капітуляцыю.

Дзік і не думаў гнюсіцца аб малога, крыху вінавата палашчыўся. Гэта магло быць перапрошванне: не ўшчувай вельмі, інакай не мог. Магло быць і выхвалянне: бачыш, як ёмка я правучыў гэтага драбняка...

Рудзенькі рызыкант, каб не нарвацца на горшае, падаўся, падбрэхваючы, на ахову родных дзвярэй, а я паспяшаўся пайсці. Не толькі ўнікаў сутычкі з гаспадарамі пакрыўджанага, як не мог дайсці да ладу, што ж адбылося.

На звароце алеі — сабака не адбягаў і не адставаўся ад мяне — я ўспомніў пра неаднойчы ўжываны сродак, які, аднак, дзейнічаў мацней за любое пакаранне.

— Абух! Апошні лопух! — пачаў я ўшчуванне. — Глядзець на цябе не хачу. Не трэба мне такога сабакі.

Дзік на вачах набываў надзвычай пануры і прыгнечаны выгляд, яго прабіралі такім чынам за неэтычныя адносіны да гасцей і за ўсялякія іншыя правіны. Сабака тады страшэнна засмучаўся, стараўся стаць непрыкметным, зашываўся на сваё месца за шафай, там клаў галаву на лапы і ўздыхаў таксама, як і тут, у парку.

Але цяпер ніякай правіны за сваёй сабачай душою ён не адчуваў, не адчуваў нічога такога і я, калі не лічыць здзіўлення ад вынаходлівасці правучыць нахабніка і забіяку.

Як відаць, сабака ўлавіў у маім голасе не грозьбу, не сур'ёзнае папярэджанне, а прытоены смех. Так яно і было. Перад вачыма стаяў пацешны малюнак няўдалай сабачай пагоні і расправы: жоўтыя лапкі недарэчна трапяталіся ў амаль паглынуўшай усё тулава жоўценькага пашчы і тыя ўцёкі сабачкі дамоў, азіраючыся, з брэхам і павіскваннем.

— Усё ж такі ты не дурань, Дзік! — я не датрымаў сур'ёзнасці. Сабака падскочыў, учуўшы іншы тон звароту, лізнуў мяне ў бараду і не даў дагаварыць, што ён самы прыемны і кемлівы з усіх знаёмых мне прадстаўнікоў ягонага роду.

Да Дзіка дайшло — яму нічога не пагражае. Сабака зноў зрабіў вясёлы падскок, прыгнуўся перада мною на выпрастаных лапах і выставіў наперад галаву, як робяць сабакі, запрашаючы адзін аднаго на гульню: пабегаць і падурэць. Калі ён выпадкам выказваў такое жаданне, я звычайна пляскаў у ладкі і тупаў нагою, робячы выгляд нібыта запрашэнне прымасцца. Тады сабака зрываўся з месца, ababягаў мяне па коле і спыняўся ў той жа паставе. На такія забавы ён не ведаў ні ўпынку, ні ўтомы.

Зараз было не да гэтага. Калі хто-небудзь з гаспадароў рудзенькага сабачкі бачыў развязку ягонай прыгоды, нас чакалі непрыемнасці і лішняя размовы. І мы падаліся дамоў.

Лятучая нарада: слухаецца паведамленне Гаспадара пра паводзіны Дзіка. Удзельнічалі ўсе сямейнікі, толькі кот Хама спаў на канапцы, яму нядаўна не пашанцавала, але пагаварыць пра гэта будзе час.

Неяк само сабой атрымалася, што віноўнік размовы апынуўся ў цэнтры пакоя, людзі сядзелі наўкруга яго пры вокнах і стале. Калі завіталі Алік з Лёнем і занялі столік каля дзвярэй, кола амаль замкнулася, усе, з усіх бакоў ўтаропіліся на сабаку. Дзік адчуваў гэта, — ніякавата ад такой пільнай увагі стала, ён устаў і паспрабаваў схавацца ад позіркаў пад крэслам Гаспадыні.

— Сядзі, як сядзеў. І матай на вус!

Слухацца неахвота, але Дзік вяртаецца на ранейшае месца.

Напачатку, як некалі на ваенных саветах, пытаюцца погляду ў малодшых.

— Што вы пра гэта думаеце, хлопцы?

*(працяг у наступным нумары)*

**Максім Лужанін**

# ПАДАРОЖЖА ПА МОВАЗНАВІІ 4

**Апавяданне на адну літару**

Ёсць і такая гульня — складаць апавяданні на адну літару (службовыя словы не лічацца). Яны бываюць па памерах ад двух-трох сказаў да цэлай старонкі і больш — гэта залежыць ад фантазіі аўтара, а галоўнае, ад узроўню валодання ім мовай. Вось адно з такіх апавяданняў:

**Пасварыліся — памірыліся**

Пяцікласнік Пеця з Палаца піянераў прыйшоў прыцемкам. У прыхожую прытупаў пяцігадовы Паўлік, пацешна падміргнуў:

— Прывітанне! Пазнава-ата, — падхапіў партфель, павалок па палавіку. — Парадак парушаеш.

Пеця павесіў паліто, пачысціў ад пылу паўбоцікі, прайшоў у пакой. Падскокам падбег Паўлік, папрасіў:

— Прачытай пра партызанаў.

— Пасля, — прабурчэў Пеця. — Перамёрз. Печка палілася? — пакратаў, прыхінуўся. — Пагрэюся... Прынясі перакусіць.

— Пакуль пераапранешся, прынясу. Поўную порцыю!

Паўлік паглядзеў пад покрыўку — пельмені з перцам і падліваю, на прыпечку — пражанка на патэльні. Паставіў на паднос. Памацаў па паліцы — пачак пячэння, пернік і піражок з павідлам. Паклаў побач, павольна панёс у пакой. Пеця прыняў паднос, паўжартам пахваліў пляменніка:

— Падзяка, пашана і павага, прыяцель! Поўны паднос пачастункаў!

Паўлюк прыязна прыгарнуўся да Пятра:

— Падсілкуйся, Пётра.

— Паслухай, Паўлючок, прынясі піць! Паўшклянкі. Пад'ем — пачытаю.

Павячэраў, падняўся, прыбраў і памыў посуд. Паўлік — памочнікам: падцёр пырскі з падлогі.

— Ну, Петрык, пачытаеш?

— Пачакай! — Пеця пастаяў, падумаў, прайшоў пасярод пакоя, прыпыніўся каля прыёмніка, пакруціў. Па першай праграме перадавалі песні. Прыпомніў: парвалася падкладка пінжака. Прышыў, прайшоўся прасам.

Паўлік памоўчваў, пазіраў прасіцельна.

Пеця прыключыў прыёмнік, пацягнуўся, пазяхнуў, паправіў падушку, прылёг. Паўлік прымасціўся побач, пакратаў за плячо. Пеця паціху пхнуў Паўліка, працягваў:

— Перадумаў. Падрамлю паўгадзінкі... пайшоў прэч.

Паўлік пакрыўдзіўся:

— Праганяеш? Пастой жа, Пецька-певень! Пашкадуеш, прабачэння папросіш!.. Па-добраму прасіў пачытаць. Паабяцаў — падмануў. Пустаслоў! Піянер павінен паказваць прыклад...

— Павуча-аеш? — падскочыў Пятрок. — Памятай: пападзе!

Паўлік прыгнуўся, палахліва прыжмурыўся...

Пеця падхапіў племяша пад пахі, падкінуў, пакружыў, паставіў на падлогу, пяшчотна прытуліў:

— Прабач, прыяцель, паленаваўся. Поўнасцю прызнаю памылку. Промах пастараюся паправіць.

Паўлючок паўшэптам прамовіў:

— Праўда?

Павалтузіліся, пасмяяліся, потым Пеця прапанаваў:

— Пойдзем, пачытаем!

Такія апавяданні можна складаць калектыўна. Паспрабуйце складаць іх на конкурс, а таксама інсцэніраваць.

*(працяг у наступным нумары)*

## Вершы Віктара Шведа

**ДЗВЕ СЯБРОЎКІ**

Наце знайшлася
Сяброўка Кася.
І ўжо дзяўчаты
Быццам блізняты.

Сплятаюць ручкі
Дзве неразлучкі.
Было слёз многа
Перад дарогай.



*Кася і Ната — дзве сяброўкі.* **Фота В. Шведа**

**ЖЫВАТВОРНАЕ ПАВЕТРА**

Настаўнік расказаў аб нетрах
Нашай зямной планеты,
Аб неабходнасці паветра
У існаванні свету.

— Каб не паветра, — кажа Ніна, —
Мой працавіты тата
Не меў бы чым напоўніць шыны
Свайго малога „Фіата"!

__Зірні навокал__

### ПРА ШТО ГАВОРЫЦЬ ПРЫРОДА

Раней, калі яшчэ не было Гідраметцэнтра і ніхто не расказваў нам зранку, якое будзе надвор'е, старыя людзі маглі даць нам амаль што беспамылковы адказ на гэта пытанне. Яны кіраваліся шматгадовымі ўласнымі назіраннямі, каб найлепшым чынам весці сваю гаспадарку. І хоць шмат што змянілася ў прыродзе з-за парушэння экалагічнага балансу, яна аб многім можа расказаць.

Пра што сведчаць летнія з'явы? Першыя дні жніўня, а на дрэвах шмат жоўтых лістоў. Значыць, будзе ранняя восень і трэба паспяшацца з уборкай ураджаю. І наадварот — восень чакаецца доўгай і цёплай, калі вельмі позна зацвіла рабіна. У жніўні галіны рабіны палымнеюць чырванню ягад — чакай працяглай і халоднай восені.

Хоць зіма, як кажуць людзі, яшчэ за гарамі, але ўмудроныя жыццём людзі ўмеюць і ў жніўні ўбачыць яе першыя рысы. Людзі заўважылі, што кожны раз, калі мурашкі будавалі нязвыкла вялікія мурашнікі, наступала суровая і працяглая зіма. А багаты ўраджай жалудоў амаль заўсёды папярэднічаў цёплай зіме.

Больш кароткі прагноз можна зрабіць нават не выходзячы з уласнага двара. Вось кураняты гуртам мітусяцца вакол квактухі і не разбягаюцца, як звычайна, па агародзе. Чаму? Яны адчуваюць блізкую і працяглую непагадзь. Нарэшце пайшоў дождж, па лужынах паплылі бурбалкі, а куры, замест таго, каб хавацца, разбрыліся па двары і шукаюць чарвякоў. Гэта яшчэ адно папярэджанне таго, што дождж скончыцца не хутка.

Наступіў вечар... Наваколле зацягнулася туманам, ён нібы сцелецца над зямлёй. Вось і выдатна! Заўтра нас чакае сонечны дзень.

## *КРЫНІЧНАЕ СЛОВА*

*Хараство прыглядзіцца,*
*а розум прыгадзіцца.*
*Мякка сцелюць,*
*ды мулка спаць.*
*Якое карэнне,*
*такое і насенне.*
*Што пасееш,*
*тое і пажнеш.*

# КАСТРЫЧНІК

З надыходам кастрычніка прыроду агортвае своеасаблівы сум. Усё часцей неба зацягваецца густымі хмарамі, церушыць дробны халодны дождж.

Але надвор'е ў кастрычніку ўсё ж зменлівае. То некалькі дзён запар ідуць дажджы, то падзьме халодны вецер, а то і невялікі марозік пакрые ўвільготненую зямлю інеем.

А то раптам усталюецца цёплае, амаль летняе надвор'е. І здараецца гэта, як правіла, у першай палове месяца. Такое вяртанне цяпла назіраецца ў кастрычніку амаль штогод і працягваецца па некалькі дзён, а то і тыдняў. Быццам створана гэта пара для жанчыны-працаўніцы, якая ў паўсядзённых клопатах і не зглядзела, як праімчалася лета, і не паспела адчуць яго хараства. І вось прырода, не жадаючы пазбавіць яе гэтай радасці, часова вяртае да нас лета. Таму і называецца гэта пара ў прыродзе — „бабіна лета". Але потым зноў наступаюць халады. Адлятаюць у цёплы край апошнія чароды птушак.

Розныя жывёлы па-рознаму рыхтуюцца да зімы. Лятучыя мышы-кажаны акупіравалі дуплы дрэў, гарышчы закінутых пабудоў, падвалы і заснулі там уніз галавою, учапіўшыся кіпцюрамі задніх канечнасцей за століь.

Змеі, яшчаркі, жабы схаваліся ў норкі, трухлявыя пні і пад карэнні дрэў, упадаюць у здранцвенне і паступова пераходзяць у спячку.

Апранаюць больш цёплае футра пушныя звяры. Святлейшымі сталі брушка і бакі ў зайца-русака, а спінка з рыжай зрабілася шэранькай. Бяляк пачынае ў белы кажушок апранацца. Спачатку бялеюць ногі, заяц, як кажуць, „надзявае порткі", потым — бакі. І толькі перад самым снегападам ён пабялее цалкам. Добра яму будзе зімой, а зараз не вельмі — белыя плямы далёка відаць, прыходзіцца пакуль адседжвацца ў гушчары.

Змяніла свой выгляд вавёрка. Замест карычневага футра з'явілася цёплая і шчыльная шэрстка дымчатага колеру.

Падшуквае месца для спячкі янот. Але класціся ён не спяшаецца. Пакуль яшчэ можна, нагульвае тлушч — ловіць аслабелую рыбу, шукае жаб і смоўжыкаў, падбірае рэшткі салодкіх фруктаў і агародніны, забіраецца ў птушнікі.

І ўсё бліжэй зіма...

# НАРОДНЫЯ ЖАРТЫ

**Пратэст**

Маці выварвае бялізну. У хату ўваходзіць шасцігадовы Васёк і пытаецца:

— Што ты, мама, варыш?

— Бялізну.

— А мая кашуля таксама варыцца?

— Так, сынок.

Васёк трошкі падумаў і заяўляе:

— Вары не вары, мама, а я сваю кашулю ўсё роўна не буду есці.

**Каб я ведаў**

— Ты смелы? — пытаецца Цішка ў Колі.

— Смелы, — адказвае той.

— То чаму ж ты зайца спалохаўся, калі мы ў лес хадзілі?

— Дык я ж не ведаў, што гэта заяц.

**Здагадлівы хлопчык**

— Мама, я ведаю, чаму падкоўваюць каня.

— Чаму, сынок?

— Каб у яго ногі не мерзлі.

# Апрацоўка косці на Беларусі

З косці нашы продкі майстравалі самыя розныя рэчы: грабеньчыкі, гузікі, скрыначкі, пячаткі, шашкі, шахматы і інш. З касцей буйной свойскай жывёлы, а таксама з рагоў быкоў, ласёў, аленяў і зуброў выраблялі іголкі, лыжкі, тронкі нажоў і кінжалаў, арнаментаваныя накладкі на калчаны, розныя дэталі. Арнамент на паверхні вырабаў звычайна наносілі нажом, разцом, свердлам або цыркулем. Некаторыя вырабы выточвалі на такарным станку, напрыклад, шахматы. Перад апрацоўкай косткі жывёл, каб выдаліць з іх тлушч, добра выварвалі ў шчолаку, а потым пад прэсамператваралі ў плоскія загатоўкі. Рэшткі касцярэзных майстэрань знойдзены ў многіх беларускіх гарадах (Копысь, Гродна, Мазыр, Мсціслаў, Віцебск і інш.). З косці таксама выраблялі высокамастацкія вырабы: абразкі, пячаткі, касцяныя накладкі, аздобленыя рознымі сюжэтнымі выявамі. Касцярэзнае рамяство існавала на Беларусі да XVIII стагоддзя.

**Алег Трусаў**

# Яшчэ пра II Фестываль нацыянальных меншасцяў

У Гданьску быў я карацей за Алега Латышонка і менш за яго бачыў. Але ўсё роўна хочацца дакінуць свае тры капейкі да ягонага апісання фестываля.

Ездзіў я туды разам з нашымі калектывамі — „Маланкай” і „Рэалем” — увесь час быў з імі (чым, дарэчы, я вельмі здаволены) і таму, у поўным сэнсе, глядзеў на мерапрыемства вачыма выканаўцаў. А з гэтага пункту гледжання — разумеючы ўсе складанасці, перад якімі апынуліся арганізатары і даацэньваючы іхнюю немалую працу — фестываль не паказаўся найлепшым.

„Маланка” і „Рэаль” выступалі ў нядзелю і таму ў Гданьск заехалі толькі ў суботу вечарам. Згубілі добрую палову спадарожных фестывалю імпрэз. Але яшчэ паспелі б на інаўгурацыйны канцэрт, каб заняліся намі арганізатары. А так блукаліся мы самапасам па Старым горадзе. Добра, што хоць дапыталіся пра начны канцэрт рок-музыкі, а то і гэтага не пабачылі б.

У нядзелю — рэпетыцыя, выступленне і зараз трэба было ехаць дахаты. А маглі б хаця паглядзець выстаўку беларускай мастацкай фатаграфіі, якая прэзентавалася якраз у Сопаце. Арганізатары маглі б хаця паведаміць пра яе.

Я не хачу ва ўсім вінаваціць арганізатараў, бо — падкрэслю гэта яшчэ раз — добра яны пры фестывалі напрацаваліся. Толькі, відаць, замнога ім хацелася. Мерапрыемства атрымалася завялікае, над якім цяжка запанаваць. Арганізатары сцягнулі выканаўцаў з усяе Польшчы (і нават з замежжа) і быццам бы з лімонаў, выціснулі з іх на канцэртах сокі і „гуд бай”. А маглі б крыху больш заняцца імі, паказаць (што пастулаваў і Алег) хаця б Гданьск, ці ўрэшце пераназнёміць між сабою.

У Гданьску фестываль калі лічыць па колькасці гледачоў на канцэртах, не выклікаў вялікага зацікаўлення. Расплыўся ён у вялікім горадзе. Ці не варта было б перанесці яго ў іншае месца. Можа, скажам, у Гурова-Ілавецкае, або да літоўцаў у Пуньск, або кудысьці да славакаў. Можна было б сарганізаваць штосьці такое і ў нас, у Бельску ці Орлі. Можна, зрэшты, з фестывалем і пераязджаць з аднаго месца ў другое.

Гэтай жменькай думак дзяліліся мы ў зваротнай дарозе, атмасферу якой дакладна перадаў ужо Алег Латышонак („II Фестываль нацыянальных меншасцяў”, „Ніва” н-р 42 ад 16 кастрычніка г.г.). Зрэшты, што як што, але атмасфера ў нашай групе была такая, што ўжо дзеля гэтага варта было выпусціцца ў такую далёкую дарогу. Завяршэннем паездкі было стварэнне „Рэальнай маланкі”.

Толькі наўрад ці зможа яна ў такім складзе хаця б праводзіць рэпетыцыі. Бо „Рэаль” у ніякім выпадку не з'яўляецца бельскім гуртам. Радавод „Рэалю” (некаторыя кажуць — „Раялю”) прабаваў я вывесці, пішучы пра фэст у Бельску. Нагадаю яго тут. У гурце тры браты Кавальскія з Крыўца, але Янак жыве ў Беластоку, Славік у Гайнаўцы і, хіба, толькі наймалодшы Мірак у Крыўцы (але я тут няўпэўнены). Чацвёртым музыкам з'яўляецца Янак Крынскі з Гайнаўкі. Апошнім часам з хлопцамі спяваюць дзве прыгожыя дзяўчыны (беластачанкі?): Аня Богус і Марыся Вярбіцкая.

Няхай хоць гэты здымак будзе памяткай па „Рэальнай маланцы”.

**Мікола Ваўранюк**
**Фота аўтара**



*„Рэальная Маланка” — гурты „Рэаль” і „Маланка” ў Гданьску.*

# Сустрэча з сенатарам

9 кастрычніка г.г. у памяшканні пасольскага клуба Саюза дэмакратычных левых адбылася сустрэча з сенатарам Янам Мулякам, прысвечаная сумнавядомаму закону аб дзяржаўнай тайне.

Спадар сенатар назваў гэты закон „здохлым катом падкінутым грамадству” і сцвердзіў, што рыхтавалі яго не парламентарыі, а толькі чыноўнікі Міністэрства ўнутраных спраў. Выказаў ён пры нагодзе жаль, што дыскусія пачалася толькі пасля ўхвалення закона, а не да гэтага.

Сам закон сенатар лічыць неабходным. Паводле яго, апошні праект быў абсурдны, але ж абсурдам было б цвердзіць, што нешта такое як дзяржаўная тайна не існуе. Закона аб дзяржаўнай тайне нельга прытым аддзяляць ад закона аб свабодзе друку. Толькі разам гэтыя законы могуць спрацаваць. Улічыўшы ўсё вышэйсказанае, здамінаваны левымі Сенат адкінуў закон прыняты здамінаваным левымі Сеймам.

Ян Муляк з'яўляецца сябрам двух сенацкіх камісіяў: камісіі культуры, сродкаў масавай інафармацыі, фізкультуры і спорту ды заканадаўчай камісіі.

У сваім жыццяпісе сенатар мае і журналісцкі раздзел. Як сам расказваў, змагаўся з цэнзурай у трыццатых гадах як рэдактар „Robotnika” і „Dziennika Ludowego”. Дык няма дзіва, што ягоная размова (закранался ў ёй шмат іншых тэмаў) з журналістамі праходзіла ў атмасферы поўнага зразумення.

**Алег Латышонак**

# Жамчужына бачана гуманістам

Барбара Эва Высмулэк — асоба ў Белавежы паўсюдна вядомая. Сама яна паходзіць з Варшавы. Мае вышэйшую адукацыю (закончыла польскую філалогію на Варшаўскім універсітэце). Пачаткова працавала ў асветных установах у Гастыніне, Прушкаве і ў Гайнаўцы. У Белавежы жыве з 1960 года. Прыехала сюды разам з мужам — леснікам Яцкам Высмулкам, асобай не менш цікавай і каларытнай; на жаль, ён ужо не жыве, памёр у 1983 г.

Спадарыня Эва (так называюць яе найчасцей) увесь „белавежскі час” працавала хавальніцай навуковай бібліятэкі Інстытута даследавання млекакормячых ПАН. Ад некалькіх гадоў яна ўжо на пенсіі.

Паўсюдна вядомае захапленне Б. Э. Высмулэк турызмам, экскурсаводствам. У радах членаў ПТТК яна з ліпеня 1951 г. У 1962 г. сп. Эва стала экскурсаводам па Белавежскай пушчы. Супольна з мужам апынулася ў ліку найбольш актыўных і ахвярных членаў белавежскага экскурсаводчага гуртка. Спадарства Высмулкі, між іншым, заснавалі бібліятэку гуртка, вызначылі два турысцкія шляхі па пушчы — для аднаго з іх сп. Эва апрацавала інфарматар.

І, вось, гэтак дайшоў я да творчай дзейнасці сп. Высмулэк. Яна напісала некалькі гутарак-легенд аб урочышчах Белавежскай пушчы. Некаторыя друкаваліся, але звычайна турыст мае магчымасць пазнаёміцца з імі падчас г. зв. турысцкіх кастроў, калі аўтарка сама апавядае.

Апошнім часам сп. Эва атрымала з беластоцкага выдавецтва „Эканоміка і асяроддзе” прапанову напісаць серыю кароткіх кніжак аб Белавежскай пушчы, аб яе прыродзе. Прапанова была прынята і на пачатку кастрычніка г.г. у продажу паявілася першая кніжка „Жамчужына прыроды Белавежская пушча” *), вядома, на польскай мове.

Кніжачка прыцягвае чытача ўжо вонкавым выглядам. На першай старонцы вокладак красуецца на каляровым здымку магутны, стары пушчанскі дуб, а на апошняй — панарама Белавежы з птушынага палёту. Гэты апошні здымак быў выкананы Яцкам Высмулкам у 1975 г., падчас палёту белавежскіх экскурсаводаў верталётам над пушчай, сарганізаваным Высмулкамі менавіта.

Эстэтычна выглядае кніжачка і ўнутры. Тэкст даволі кароткі (сп. Эва тлумачыла мне, што выдавецтва паставіла рэзкія ўмовы: 10 старонак машынапісу і 10 каляровых здымкаў), але змястоўны і напісаны на прыгожай мове. Нехта з маіх знаёмых нават сказаў, што гэта першы „паэтычны даведнік аб Белавежскай пушчы”. Несумненна гэтак і ёсць, ды не толькі з-за змешчаных у ім вершаў. Выразна відаць, што кніжачка напісана гуманістам.

Свае першае выданне Б.Э. Высмулэк прысвяціла мужу Яцку — „лесніку з душой артыста”, які „прывёз яе ў Белавежскую пушчу і які ў пушчы астаўся назаўсёды”. Кніжачку адчыняе раздзел-пытанне: чым з'яўляецца Белавежская пушча для Польшчы, Еўропы і свету? Для сп. Эвы пушча — гэта „своеасаблівая крэпасць прыроды”, багатая „безліччу розных відаў раслін і жывёл”. Пушча захоўвае „не толькі паасобныя віды і групы відаў, але цэлыя экалагічныя працэсы”. На падтрымку гэтаму прыводзяцца фрагменты выказвання Чарлза Дарвіна і паэмы Адама Міцкевіча.

Далей аўтарка азнаямляе чытача з разнароднасцю лясоў Белавежскай пушчы, затым крыху месца адводзіць найбольш каштоўнаму фрагменту той жа пушчы — Белавежскаму нацыянальнаму парку. Асобныя раздзелы прысвечаны каралеўствам звяроў, раслін і грыбоў. Кароткую характарыстыку Белавежы — „вёскі на міжлясной паляне”, пачынае фрагмент тэксту Генрыка Сянкевіча, які гэтую мясцовасць наведаў у 1882 г., а зачыняе верш „Антыфона” Станіслава Грахоўяка, прысвечаны Белавежы. Апошні раздзел, у якім падаецца „што можна пабачыць, пачуць і перажыць у Белавежскай пушчы”, папярэджвае вось такое падсумаванне — чым для нас усіх з'яўляецца пушча?: „Безумоўна гэта месца даследчыцкай працы, жывая навуковая лабараторыя, асяродак прыродазнаўчых ведаў, а таксама тэрыторыя для экскурсій, якая дастаўляе шмат уражанняў і інспіруе ўсе дысцыпліны мастацтва. Белавежская пушча з'яўляецца самабытнай каштоўнасцю, адзінай і непаўторнай”.

Кніжачку ў цвёрдых вокладках заключае спіс адрасоў і нумароў тэлефонаў прыгодных кожнаму турысту, а таксама бібліяграфія.

Публікацыя гэтая будзе карыснай перш за ўсё для школьнай моладзі. Яна ў вельмі даступны спосаб знаёміць з пушчай, у нейкай ступені адказвае на пытанні звязаныя з яе функцыянаваннем. Думаю, што па альбомчык ахвотна працягне руку і дарослы наведвальнік нашай жамчужыны.

Калі б мець нейкія заўвагі, то толькі такія, што тэкст мог бы быць абшырнейшы і прыдалося б змясціць больш здымкаў (у калекцыі сп. Эвы ёсць іх некалькі тысяч). Гэты прабел могуць элімінаваць чарговыя кніжачкі Б. Э. Высмулэк. Прадбачваецца, што яшчэ ў гэтым годзе выйдзе „Зімовы сон прыроды”. А ўжо зроблена карэктура кніжачкі пра веснавое прабуджэнне лесу і поўню лета ў лесе. У далейшым плане прадугледжаны публікацыі пра правы мацнейшага — млекакормячыя, Зямля — нашая планета і як паводзіць сябе экалагічна.

Спонсарамі кніжачкі сп. Эвы з'яўляюцца Нацыянальны фонд аховы асяроддзя і воднай гаспадаркі і Міністэрства аховы асяроддзя, прыродных рэсурсаў і лясніцтва.

**Пётр Байко**

----------------

*) *Barbara Ewa Wysmułek, Klejnot przyrody Puszcza Białowieska, Wydawnictwo „Ekonomia i Środowisko”, Białystok 1994, str. nlb. 23, fot.*

# Вайна за рэха

Беластоцкі лялечны тэатр паказвае спектакль Уласты Паспішылёвай „Вайна за рэха” ў пастаноўцы Барбары Мушынскай. Казка расказвае пра двух каралёў-суседзяў: адзін з іх меў тры дачкі, але не меў сына; у другога было наадварот. Адзін з іх загадаў разабраць гару, што стаяла на граніцы. І ў казцы, як і ў жыцці бывае, адны падзеі выклікаюць другія: калі знікла гара ў аднаго караля, у другога прапала рэха, якое ад тае гары адбівалася і якім той кароль вельмі даражыў. Так часта і ў прыродзе бывае, што непрадуманая дзейнасць аднаго чалавека шкодзіць другому, а часта нават і яму самому. Так сталася і ў казцы: раззлаваны стратай рэха кароль аб'явіў вайну свайму суседу, што не меў сына, які мог бы камандаваць войскам. У жыцці бывае па-рознаму; казка, на радасць дзецям, заўсёды канчаецца добра. Як пагадзіліся каралі ў гэтым спектаклі — не напішу, бо гэта тайна, якая выяўляецца толькі гледачам.

**Аляксандр Вярбіцкі**

# НАШЫ КАРАНІ

## LXXI. Даспяванне здрады.

У другой палове XVI стагоддзя каталіцкія асяроддзі, самаўпэўненыя ў сваёй сіле і падтрымцы з боку каралеўскай улады ды глыбока перакананыя ў тым, што выконваюць „святую місію ашчаслівання схізматыкаў (г. зн. праваслаўных)" праз іх навяртанне пад уладу рымскага папы як „наступніка Хрыста на зямлі", толькі-толькі разгортвалі свае крылы. Усе яны бралі прыклад з вялікага прыяцеля езуітаў, караля Стэфана Баторыя, каталіцкага неафіта, які перайшоў з пратэстанцтва ў каталіцызм толькі стаўшы польскім каралём. Гэта Баторый у адбітым ад расейскіх войск беларускім Полацку ў 1579 г. захапіў восем праваслаўных цэркваў і сем манастыроў, выгнаў з іх праваслаўнае духавенства і манахаў і ўсе гэтыя аб'екты аддаў ва ўласнасць езуітам на ўтрыманне заснаванага ім касцёла і калегіі, каб выхоўвалі мясцовую моладзь на адступнікаў ад бацькоўскай веры праваслаўнай, пашыралі каталіцызм і ўсялякімі спосабамі зніштажалі праваслаўе. Таксама паводзіў сябе яго наступнік Зыгмунт III Ваза.

Напэўна ўсё гэта давяло б да вострай, франтальнай атакі каталіцызму на праваслаўе, але магчыма ў крыху пазнейшым часе. Тым часам на ўсходнеславянскія землі ў 1588 г. прыбыў Усяленскі Патрыярх Ерэмія II і мітрапаліта маскоўскага Іова паставіў патрыярхам. Вяртаючыся, наведаў праваслаўную грамадскасць Рэчы Паспалітай і ўладкаваў шэраг спраў, намагаючыся аздаравіць унутранае жыццё праваслаўнай Царквы, між іншым, быўшы ў Супрасльскай лаўры, прызнаў ёй правы стаўрапігіі, г.зн. незалежнасці ад улады епіскапа.

Дзейнасць патрыярха моцна занепакоіла ў Рэчы Паспалітай свецкія ўлады і каталіцкую іерархію, бо ўсебаковая падтрымка ім руху свецкіх царкоўных брацтваў і абарона імі праваслаўя выдатна ўзмацняла яго, а ўстанаўленне Маскоўскага патрыярхату яшчэ болей узвышала аўтарытэт Маскоўскай дзяржавы як брацкага, самага блізкага абаронцы праваслаўных беларусаў і ўкраінцаў у іх змаганні супраць акаталічвання і паланізацыі.

На жаль, патрыярх Ерэмія II, як вядома, пазбавіў пасада тадышняга мітрапаліта кіеўскага і ўсяе Русі Анісіфара за кананічныя адступленні ў яго жыцці, хаця гэты іерарх дабіўся многа карыснага для праваслаўнай Царквы. Патрыярх на яго месца паставіў падсунутага каралём і езуітамі архімандрыта Міхаіла Рагозу, а двум паплечнікам езуітаў: епіскапам Кірылу Тэрлецкаму надаў званне патрыяршага экзарха, а Мялецію Храбтовічу — годнасць патрыяршага прататронія (намесніка). І такім чынам замест узмоцніць праваслаўную Царкву ў Рэчы Паспалітай Ерэмія II з-за свайго няведання становішча паставіў на чале Царквы яе ўнутраных смяротных ворагаў.

У той самы час узмацненне патрыярхам Ерэміем ролі свецкага царкоўнага актыву (брацтваў) у жыцці Царквы моцна занепакоіла ўсіх праваслаўных іерархаў за свой аўтарытэт, пасады і самаўпраўнае распараджэнне царкоўнай маёмасцю, бо ўсе яны баяліся кантролю з боку свецкіх дзеячаў, маючы нячыстыя сумленні і рукі. Гэтую боязь зараз жа ўмела выкарысталі ворагі праваслаўя, падказваючы запалоханым уладыкам прынцыпы уніі, якая вызваліла б іх з-пад улады патрыярхату і кантролю брацтваў. Усе яны ўхапіліся гэтага выратавальнага для іх выхаду: падацца пад уладу рымскага папы.

Неабходна заўважыць, што сама думка пра набліжэнне і нават задзіночанне на аснове поўнай роўнасці і без зменаў у канонах веры, літургіі і абраднасці праваслаўнай Царквы з каталіцкім Касцёлам здаўна не была чужою выдатным царкоўным дзеячам тае эпохі, між іншым, таксама князю Канстанціну (Васілю) Астрожскаму, ахвярнаму абаронцу праваслаўя. Справа датычыла спынення абураючых і раздзяляючых грамадскасць і тым самым надзвычай шкодных для Рэчы Паспалітай і абедзвюх канфесій змаганняў адных супроць другіх, узаемнай дыскрэдытацыі. Важна было пры тым і павышэнне прэстыжу Царквы і праваслаўнага духавенства ў краіне.

Такім чынам паўсталі прадпасылкі да падрыхтоўкі уніі і неўзабаве пасля выезду Ерэміі II з Рэчы Паспалітай новы патрыяршы экзарх, епіскап луцкі Кірыла Тэрлецкі ў глыбокай таямніцы ад свецкіх праваслаўных дзеячаў і ніжэйшага духавенства разгарнуў надзвычай актыўную дзейнасць за яе ажыццяўленне. Ужо ў чэрвені 1590 г. пад першай дэкларацыяй пра *згоду аддаць нашу волю і мысленне ў паслушэнства Святому Айцу і падпарадкаваць Божыя цэрквы вярхоўнай уладзе Святога Папы Рымскага* ён сабраў чатыры подпісы сярод шасці тадышніх дзеючых праваслаўных епіскапаў і атрымаў ціхую прыхільнасць самога мітрапаліта Міхаіла Рагозы.

У тым жа часе палымяны змагар за падпарадкаванне праваслаўнае Царквы каталіцкаму Касцёлу Пётр Скарга ў новым выданні свае брашуры: „O jedności Kościoła Bożego..." прыспешваў да болей актыўнага дзеяння самога караля. Славуты красамоўца патрабаваў ад хрысціянскага носьбіта кароны, каб, клапоцячыся пра адзінства Рэчы Паспалітай, дапамагаў таксама адзінству Касцёла, без еднасці якога не толькі ніхто не можа быць збаўлены, але і цэласнасць Рэчы Паспалітай не будзе даўгавечнай. Пры гэтым ён спасылаўся на св. Аўгусціна, што адзін загад уладара можа даць Касцёлу больш карысці, чым шматлікія казанні духавенства. І Зыгмунт III Ваза, умацаваўшыся на польскім троне дзякуючы падтрымцы праваслаўнага баярства (!), зараз жа паспяшаўся ажыццяўляць указанні Скаргі: у 1592 г. ён паабяцаў прыхільнікам уніі ахову і раўнапраўе (якога, дарэчы, ніколі і не думаў здзейсніць) з каталіцкім Касцёлам.

Каралеўскія абяцанкі акрылілі старанні Тэрлецкага і ягонага паплечніка епіскапа берасцейскага і уладзімірскага Іпація Пацея (нядаўняга берасцейскага гуляшчага кастэляна) у здабыванні новых прыхільнікаў і выпрацоўцы прынцыпаў, на якіх павінна наступіць далучэнне Царквы да Касцёла.

**Мікола Гайдук**



## Беларусы ў запаведнік?

Нейкі Ежы Трачук (як падказваюць мне сябры з Гданьска, ён — перафарбаваны беларус), адкрыўае частку Беласточчыны на поўдзень ад Нарвы для ўкраінцаў (глядзі: „Wiadomości Kulturalne", nr 16). Кажа ён, што і так ужо доўга ўкраінцы цярпелі, калі паляці і дзеячы БГКТ абеларушвалі і апалячвалі ўкраінцаў, пражываючых на Бельшчыне і Гайнаўшчыне. Для яго, і не толькі для яго, беларусы, якія жывуць на гэтых землях ад вякоў, з'яўляюцца ўкраінцамі, бо іхняя гаворка падобная да ўкраінскай. А ці чэшская гаворка або славенская не падобныя да польскай, а балгарская да сербскай?

Пагранічча дзяржаў з'яўляецца пагранічнам культур. Мяшаюцца не толькі людзі але і мовы. Думка, што на поўдзень ад Нарвы жывуць украінцы, узнікла не так вельмі даўно. Група беларускіх дзеячаў — натхнёных паэтаў і іншых артыстаў, якіх беларускія выдаўцы не хацелі друкаваць, пагневаліся і адвярнуліся ў бок украінцаў. Украінцы ахвотна падалі ім сяброўскую руку. Выходзіць, што брак палітычнай пранікліваці тагачасных беларускіх дзеячаў-выдаўцоў давядзе да бельска-гайнаўскай сэцэсіі.

Можна махнуць рукой на балбатню Е. Трачука, калі б такія погляды былі адасобленыя і належалі да фальклору публіцыстычнай мыслі. Аднак падаюць яны на ўрадлівую глебу нацыянальнай палітыкі Саюза ўкраінцаў у Польшчы. Беларускія вёскі на ўсходній сцяне якраз для ўкраінцаў з'явіліся „запаветнай зямлёй".

Як Е. Трачук уяўляе сабе ўкраінізацыю беларусаў, пражываючых на поўдзень ад Нарвы? Замест беларускай мовы ўвесці ў школы ўкраінскую? Стварыць у Бельску ці ў Гайнаўцы цэнтр украінскай культуры? А што з беларусамі? У запаведнік? І ўсё гэта адбылося б паціхеньку, без крыку? А калі без крыку, то за якія грошы можна купіць сумленне і нацыянальнасць? Бяльмо на вочы найшло ці розум камусьці адняло, ці як? Каму марыцца новая этнічная „чыстка" ў сярэдзіне Еўропы?

**Міхась Куптэль,**
**Махнатае**

**P.S.** З нагоды слаўнага юбілею — двухтысячнага нумара „Нівы" — супрацоўнікам рэдакцыі шчырыя прывітанні і пажаданні добрага здароўя на наступныя прынамсі дзве тысячы нумароў

**дасылае М. Куптэль**
**(з М. Махнацкім).**

# ІКОНЫ

### Частка VII

Выключную пазіцыю ў выказваннях аб іконах займае выказванне жыхара вёскі Бандары Івана Буры (1887—1977). Быў ён вядомы ў Бандарах як рашучы атэіст. Часта ўваходзіў у канфлікт з духоўным з Юшкавага Груда, дзе змяшчаецца сядзіба нашай парафіі. Мабыць, ва ўсёй гісторыі Бандароў Іван Бура і яго сын Пётр Бура былі адзінымі жыхарамі, у пахованых якіх не згадзіўся ўдзельнічаць юшкаўскі святар. Былі яны пахаваны без царкоўнага рытуалу, што з'яўляецца кур'ёзнай і рэдкай з'явай.

Размову аб іконах правёў я з Іванам Бурам у 1975 годзе. Была яна інспіравана тым фактам, што нягледзячы на атэізм Івана Буры, у яго хаце ікона вісела. Вось погляды гэтага чалавека на праблему, якая мяне цікавіла:

„А што гэто ты раптом загаварыў пра іконы? Можэ ты ўступіў у якоесь папоўскае або ксяндзоўскае таварыства? Ты ведаеш, што я перад вайной меў лаўку. Пэўнаго разу прыехаў да мяне камендант паліцыі і кажэ мне: „Panie Bura, pan prowadzisz interes. Byłoby dobrze, gdybyś pan odszedł od prawosławia i przeszedł na katolicką wiarę". То ты ведаеш, што я яму сказаў. А я яму сказаў так: „Пане камендант, які быў бы з мяне чалавек, калі б я, адкінуўшы сваю рэлігію як непатрэбную мне штуку, узяў раптом чужую як сваю. Не, пане камендант, можэ мне пан забраць лаўку, але свае рэлігіі то мне пан не ўвапхнеш".

Ну, а што касаецца іконаў, то я табе скажу такое, чаго ты напэўна яшчэ не чуў. У 1914 року мяне разам з тваім бацькам прызвалі ў рускую армію. Ідучы на фронт, я даў сабе слова, што усё роўно у якой сітуацыі знайдуся, не буду маліцца. І так яно і было. Прышлося мне хлебнуць горкае бяды і на фронце, і пасля рэвалюцыі. А калі ў 1922 року вярнуўся ў Бандары, то тут таксамо не было ні кала, ні двара. Але сам бачыш, яксе разжыўсе, жыву не найгорш. Ну, але я ўсё яшчэ табе не сказаў пра іконы. То цяпер скажу. Калі я знайшоўся на фронце ў Карпатах, то быў у нас такі выпадак. У часе бітвы наш назірацель залез у царкоўны купал і стуль даваў знаць нашай арцілерыі, як і куды яна мае страляць. Немцы і аўстрыякі панялі, што ў цэркві сідзіт наш разведчык. Ну і после гэтаго яны як далі з арудзіяў, то і купал з царквы збілі і разбілі поўнасцю адну сцяну. Ну то после гэтаго камандзір сказаў мне, каб я яшчэ з адным салдатам перелез праз гэту развалену сцяну і пазбіраў усе іконы. „Собери все иконы, — сказаў, — чтобы не остались на поругание врагу". Ну то я з адным салдатам узялі па мяшку і пашлі. І што ты думаеш, аказаласе, што пачці што ўсе іконы ўпалі з сценаў на памост. Было іх там можэ штук сорок, не лічачы тых, што засталіся пад цэглямі з разваленае сцяны. І што аказаласе? Аказаласе, што больш як палавіна іконаў, падаючы, раскалолася або разбілася ўшчэнткі. Пачалі мы тые іконы збіраць у мяшкі і прыглядацца да іх. І што ты думаеш. Усе яны былі моцно паточаны чарвякамі. Адным словам, было гэта поўнэ парахно.

Сам ведаеш, што час ад часу ў нас гаворыцца аб чудатворных іконах і аб тым, што каля ікон адбываюцца разны чудзеса. Я там у гэту чудатворнасць і чудзеса не веру. А чаму я не веру? Ну, як я маю верыць у такоє? Калі б ікона магла быць чудатворнаю і калі б магла бараніці людзей ад розных там бедаў, то перад усім абараніла б сама сябе. Калі б так было, то тые немецкіе і аўстрыяцкіе снарады не развалілі б цэркві. Ну, ніхай ужэ каб цэрквы ад снарадаў яны не абаранілі б, але ад чалавека то маглі б абараніці! То ты нам скажы, чы можа тая ікона абараніць чалавека ад бяды і няшчасцяў, калі не можа сама сябе абараніць ад чарвяка? Я табе скажу па совесці. Ты не займайся ірундою, не лазь і не распытвай людзей пра тое, што ні мае ніякого значэння. Трэбо дзелом займацца, а не чэпухою".

Выказванне Івана Буры мае несумненна экстрэмальны характар, аднак з'яўляецца яно яскравым элементам у сацыялагічнай карціне беларускай вёскі.

**Алесь Барскі**

# Што значыць „амінь"?

Як вядома, праваслаўныя святыя кнігі напісаны на царкоўнаславянскай мове, а багаслужбы вядуцца на старажытнарускай мове. Не ўсе словы людзі разумеюць. Падаю тлумачэнне некаторых старажытных слоў:

аз — я
аки — як
аминь — праўдзіва, правільна, няхай так станецца
глаголати — гаварыць
господин — пан
да — і, хай
десница — правая рука
днесь — сягоння
живот — жыццё
зрети — глядзець
казнити — караць
ливан — ладан
лобзание — пацалунак
мзда — плата, узнагарода
паки — яшчэ
перст — палец
преставитися — памерці
присно — заўсёды
успение — смерць
целити —лячыць
чадо — дзіця
чернец — манах
яко — так як.

**М. Варанецкі**

# ПАНАРАМА ГАРАДОЦКАЙ ГМІНЫ

## 7

### Адкуль узяліся назвы вёсак?

**Габяты** — радавая назва ад асабовае *Габята*. Вядомае яно ўжо было ў XVI стагоддзі. Тут пасяліліся літоўскія баяры (шляхта). Прозвішча Габята часта выступала ў Горадзенскім павеце. Сустракаем яго ў рукапісным дакуменце ад 1567 года, у якім ідзе гаворка пра тамашніх памешчыкаў Андрэя Габяту, Кірдзея Габятіча і Кірыла Габячіча. Вёска знаходзіцца над ракой Свіслаччу і пры чыгуначным шляху. У чэрвені 1941 года тут савецкія вайсковыя атрады ўпарта змагаліся з гітлераўскай навалай. Зараз тут пражывае ўсяго чатырнаццаць чалавек. Палова жыхароў мае больш шасцідзесяці гадоў.

**Глейск** — даўней назва ўрочышча і фальварка. Назва тапанімічная ад *глей* (мулаваты, глiнiсты грунт). Урочышча Глейск выступае, між іншым, у пісьмовым дакуменце ад 1889 года. У 1905 годзе ў ім пражывалі 42 чалавекі, у 1910 годзе — 22, у 1915 годзе — 19 і зараз пражывае ўсяго 18 чалавек.

**Грыбаўцы** — патранімічная назва ад асабовай *Грыб*. У пісьмовым дакуменце ад 1559 года ёсць такі запіс „... вёска Шымка *Грыбакоўскага* над ракой Грыбаўка". Вёска размяшчаецца сярод лясістых узгоркаў. У 1915 годзе налічвала 64 жыхароў, у 1926 — 190 і зараз — 57.

**Дзернякова** — вёска над Дзерняковўкай, з канца XVII стагоддзя. Назва прыналежная ад асабовай *Дзерняк* (ад *дзярніна*, у дыялекце *дзерняк* — кавалак дзёрану). У 1905 годзе ў Дзернякове пражывала 319 чалавек, у 1910 годзе — 222, у 1925 годзе — 271 і цяпер — 66 асоб (у тым ліку палова гэта людзі ў пенсіённым узросце).

**Доўнява** — тапонім літоўскага паходжання. У старыя часы вёску называлі *Даўнява*. Назва прыналежная ад літоўскай асабовай *Даўныс*. У 1925 годзе Доўнява налічвала 38 жыхароў, а зараз — 26.

**Залукі** — пасяленне з канца XVII стагоддзя. Назва тапанімічная, якая абазначае *месца, якое знаходзіцца за паваротам, каленам ракі* (ад слова „лука" — дугападобны паварот ракі). Вёска размешчана пры так званым рукаве ракі Супраслі. У міжваенны перыяд у вёсцы пражывала 238 асоб і цяпер яна налічвае 210 жыхароў.

**Зарэчаны** — этнаграфічная назва, першапачаткова так называлі *людзей, пражываючых у вёсцы Зарэча або за ракой Супраслю з боку Гарадка*. Сяло размешчана на правым беразе ракі Супраслі. Назва выступае ў дакументах ад 1784 і затым ад 1875 года. Даўней пасяленне называлася Супрасль. У 1910 годзе ў Зарэчанах пражывала 290 чалавек, у міжваенны перыяд — 196 і ў 1950 годзе — 155 асоб. Цяпер гэтая салэцкая вёска налічвае 95 жыхароў.

**Засады** — тапанімічная назва, абазначае *месца за садам*. На карце Соцмана ад 1808 года ёсць пададзена назва *Данілюк*. Гэта выключае магчымасць спалучыць сучасную назву пасялення з прозвішчам *Засада*. Назва выступае ў дакументах, між іншым, ад 1784 года. У міжваенны перыяд у Засадах пражывала 39 чалавек. Цяпер сяло налічвае ўсяго пятнаццаць чалавек.

**Зубкі** — радавая назва ад асабовай *Зубко*. Вёска ўзнікла ў XVI стагоддзі. Размяшчаецца на беразе ручая Вярбел (прыток рачулкі Каладзежанкі) і пры чыгуначным шляху. Падчас другой сусветнай вайны вёска была спацыфікавана гітлераўцамі. Цяпер у Зубках пражывае семдзесят чалавек, у тым ліку 29 — гэта бабулі і дзядулі.

**Зубры** — радавая назва ад асабовай *Зубр*. Вёска ўзнікла ў XVI стагоддзі. Зараз гэта салэцкае сяло, з 185 жыхарамі.

**Зялёная** — назва тапанімічная, абазначае *месца, дзе поўна зелені*, ляскоў і пералескаў. Яшчэ ў 1905 годзе было гэта пасяленне ва ўрочышчы. Зараз у вёсцы пражывае 88 асоб, у тым ліку 33 ва ўзросце больш 60 гадоў.

**Калодна** — культурная назва ад усходнеславянскага *калода* або ад калодзежа (студні). У пісьмовых дакументах вёска значыцца з 1784 года. Размешчана яна ў катліне паміж узгоркамі, якія дасягаюць да 214 метраў над узроўнем мора (гара святога Яна). На іншай тамашняй гары — святой Анны — у час паўстання 1863 года царскія салдаты павесілі 90 паўстанцаў. Пахавалі іх у адной супольнай магіле. На тым месцы ёсць валун з мемарыяльнай таблiцай. Навокал прыгожыя мяшаныя лясы, рачулка Плоска (Плёска) мае вельмі чыстую ваду. У міжваенны перыяд у вёсцы пражывала каля 160 чалавек. Цяпер яна налічвае 114 асоб.

**Каралёвы Мост** — культурная назва *мост*, першае слова *Каралёвы* — назва прыналежная. Даўнейшы *Янаполь*. Назву змянілі ў гонар караля Яна III Сабескага (1674—1696). У пісьмовым дакуменце ад 1795 года ўжываецца назва *Каралёвы Мост Сабалеўскі*. Даўней тут, у наваколлі, між іншым, вёскі Пераходы — была Сабалеўская пушча.

Пасяленне ўзнікла над рэчкай Плоскай (Плёскай) перад 1674 годам. Навакольныя крутыя ўзгоркі, парослыя пераважна хваёвым лесам, маюць звыш 200 метраў над узроўнем мора. Найвышэйшыя пагоркі называюцца: Лысая, Каралеўская, святой Анны. Тут цудоўны лясны мікраклімат.

Паводле легенды, падчас падарожжа ў Ваўкавыск тут затрымаўся Зыгмунт Аўгуст; тады на працягу адной ночы пабудавалі мост цераз раку. У 1812 годзе дарогаю паўз Каралёвы Мост ішлі войскі Напалеона. Стары лясны тракт называюць напалеонаўскім — гэтаю дарогаю, як сцвярджаюць гісторыкі, праходзіў корпус маршала Нэя. Таксама сюдою вярталіся напалеонаўскія салдаты пасля паражэння пад Масквой. Побач тракту знаходзіцца капліча святой Анны, пабудаваная Саковічамі.

Варта адзначыць, што ў XVII стагоддзі ўласнікам маёнтка ў Каралёвым Мосце быў Багуслаў Радзівіл. Пасля ён падарыў яго свайму вернаму слузе Саковічу. Ва ўладанні гэтай сям'і маёнтак быў да 1913 года. У XIX стагоддзі Каралёвы Мост быў асяродкам тэкстыльнай прамысловасці.

У час I сусветнай вайны быў разбураны двор Саковічаў, дзве фабрыкі і вадзяны млын. Цудоўны калісьці парк Радзівілаў здзічэў. Яшчэ ў 1937 годзе былі тут вялікія старыя дрэвы і пасярод іх пышны дуб, у цені якога праўдападобна адпачываў Зыгмунт Аўгуст.

У вёсцы — прыгожая царква, пабудаваная ў 1913—1914 гадах, з іканастасам, прывезеным з царквы ў Гарадні, ды класіцыстычны касцёл святой Анны, заснаваны ў 1830 годзе.

На праваслаўных могілках у Каралёвым Мосце знаходзіцца магіла расстраляных гітлераўцамі жыхароў вёскі Папоўка, якую фашысты спацыфікавалі. На месцы гэтага сяла стаіць вялікі помнік. Пры шашы ў Баброўніках, каля Валілаў, знаходзіцца помнік партызанам Кнышынскай пушчы.

У міжваенны перыяд у Каралёвым Мосце пражывала 35 чалавек, а цяпер іх тут крыху больш — 48.

*(працяг будзе)*

**Янка Целушэцкі**




# KTO SIEJE WIATR...

Smutne refleksje nasuwają mi się po przeczytaniu tendencyjnego i nierzetelnego artykułu p. Eugeniusza Mironowicza "Wilnia — historyja, mify i suczasnaść" opublikowanego na łamach "Niwy" (1994, nr 40, s. 8). Trudno właściwie określić rodzaj i charakter tej publikacji mającej być zapewne w założeniu Autora sprawozdaniem z II Międzynarodowej Konferencji "Wilno i Kresy Północno-Wschodnie. Miejsca zakorzenienia i promieniowania kultur", która odbyła się w Białymstoku w dniach 14-17 września br., bowiem Czytelnicy "Niwy" zamiast sprawozdania otrzymali niepełną informację i stronnicze spekulacje Autora rzekomo walczącego o obiektywizm.

Na konferencji przez cztery dni wygłoszono podczas obrad plenarnych i w sekcjach (sekcja I: Historia, losy ludzkie, język; sekcja II: Edukacja i wychowanie; sekcja III: Życie społeczne i kulturalne; sekcja IV: Świadectwa literatury) ponad 100 referatów — przy czym kilkanaście na obradach plenarnych, a 80 wystąpień miało miejsce w sekcjach. Pan Eugeniusz Mironowicz dość łatwo i niefrasobliwie feruje wyroki oceniające c a ł ą konferencję na podstawie kilku referatów wygłoszonych podczas obrad plenarnych w ciągu dwóch pierwszych dni trwania konferencji. Do swego omówienia wybiera tylko referaty oraz dyskusje o treści historyczno-politycznej, pomija zaś inne. Ponadto wprowadza Czytelników w błąd i świadomie wypacza ideę konferencji przemilczając drugi, tak istotny, człon jej nazwy: "MIEJSCA ZAKORZENIENIA I PROMIENIOWANIA KULTUR". Dla p. E. Mironowicza była to konferencja dotycząca li tylko "Wilna i Kresów Północno-Wschodnich".

Autor artykułu stwierdza, iż sesja dotyczyła tylko jednej kultury — kultury polskiej. Szkoda, że zabrakło p. E. Mironowicza na obradach poszczególnych sekcji, gdzie prezentowane były referaty podejmujące tematykę literacką i kulturalną innych narodów. Zamiast np. referatu p. Ksenofonta Lecko z Grodna "Wilnia i paczatki biełaruskaha ramantyzmu" czy p. Ireny Sławińskiej z Lublina "Spotkanie narodów w Uniwersytecie Stefana Batorego (1919-1939)" bądź p. Zdzisława J. Winnickiego z Wrocławia "Świadomość Wileńszczyzny w północno-zachodnich obszarach Republiki Białoruś", p. E. Mironowicz wolał wysłuchać wyłącznie kilku referatów dotyczących historii najnowszej, bo tylko te dają Mu możliwość jątrzenia i siania nienawiści oraz pozwalają na fałszywe stwierdzenie o rzekomym braku referatów podejmujących tematykę kultury białoruskiej.

P. Eugeniusz Mironowicz żywo przejęty sprawami dyskusji poświęconej stosunkom polsko-litewskim nie zwrócił uwagi nawet na obecność (w obradach plenarnych) referatu swego brata p. Antoniego Mironowicza "Kult świętych na Białorusi", dla którego znalazło się także miejsce w ramach konferencji "Wilno i Kresy Północno-Wschodnie. Miejsca zakorzenienia i promieniowania kultur".

Konferencja miała charakter otwarty. Nic więc nie stało na przeszkodzie, by Autor artykułu zgłosił również i swoje wystąpienie na temat: "Wilno jako kulturalna stolica Białorusinów", którego, Jego zdaniem, zabrakło. Mam nadzieję, że uczyni to na III Międzynarodowej konferencji "Wilno — Wileńszczyzna...".

Przytoczone przeze mnie fakty (pominięcie drugiego członu nazwy konferencji, przemilczenie referatów dotyczących kultury i literatury białoruskiej, ocena całej konferencji na podstawie kilku referatów) wymownie świadczą, iż ton publicystyczno-propagandowy miała nie konferencja "Wilno i Kresy Północno-Wschodnie. Miejsca zakorzenienia i promieniowania kultur", lecz pełen półprawd artykuł "Wilnia — historyja, mify, suczasnaść". P. E. Mironowicz domaga się obiektywizmu od stu wygłoszonych referatów, sam jednak świadomie z obiektywizmu rezygnuje pisząc swój nierzetelny artykuł.

No cóż, rzeczywiście "różnie można patrzeć na historię, kulturę i naukę...". Jedni budują mosty. Pan Eugeniusz Mironowicz sieje wiatr... A burza nie będzie służyła ani Polakom, ani Białorusinom, a wrogom obu narodów.

**Teresa Zaniewska**

P.S. Na konferencji obecny był p. Andrzej Romanowski z Krakowa, nie zaś p. Andrzej Ramkowski jak podaje "Niwa".

**Od autora:**

Byłem obecny na sesjach plenarnych i przekazałem tylko relację o tym, co działo się w tym czasie na sali obrad. Przypominam, że moja negatywna ocena dotyczyła sposobu dyskusji na temat stosunków polsko-litewskich w dziejach najnowszych obu narodów. Konferencja miała mieć naukowy charakter, lecz wymiana poglądów — moim zdaniem — bardziej przypominała debatę polityczną. Jako dowód przytoczyłem (mocno złagodzone) wypowiedzi dyskutantów.

Pani Teresa Zaniewska określa to "sianiem nienawiści" (do kogo?), "wywoływaniem burzy" (?), zarzuca mi tendencyjność i nierzetelność. Czyżby nie było tych referatów, osób, wypowiedzi przedstawionych w moim artykule?

Pani Teresa Zaniewska ma prawo do własnych ocen, w jej mniemaniu obiektywnych, i jak również — jako organizator konferencji — takiego, a nie innego potraktowania mojej relacji. Ja jednak domagam się prawa do własnych poglądów. Być może miałem pecha i nie trafiłem do sekcji, w której dyskutowano o "promieniowaniu wielu kultur". Zapewne inne pozostałyby wrażenia i inna byłaby treść relacji. Pamiętając jednak o tym, co działo się na sesjach plenarnych, podtrzymuję twierdzenie, że treść przytłaczającej większości referatów nie była adekwatna do nazwy konferencji, którą p. T. Zaniewska była łaskawa przypomnieć — "Wilno i Kresy Północno-Wschodnie. Miejsca zakorzenienia i promieniowania KULTUR". Polecam zresztą uwadze wykaz referatów i wystąpień zawarty w "Programie", który otrzymał każdy uczestnik konferencji.

**Eugeniusz Mironowicz**

# НІЎКА

## ПАРОДЫІ

### ВІДАЦЬ, БЫЦЬ БЯДЗЕ

*Палымяныя ружы думак*
*расцвітаюць у галаве.*
*Птушкі ведаюць накірунак,*
*думкі ж — не.*
*МАКСІМ КАПЫЛОВІЧ*

Расцвітаюць ружы думак
Сёння з ранку ў галаве.
У абед — вяргіні з сумам
Зашумеліся ўва мне.

А пад вечар птушкі з крыкам
Вылецелі ў свет праз рот,
(Быць, відаць, бядзе вялікай)
Аж зваліўся з печы кот.

Пруць на волю кветкі думак.
Як жа ноч пражыць тут мне?
Птушкі знаді накірунак,
думкі ж — не.

ВІНЦУК АСЦЮК

## СЕНТЭНЦЫІ

Гром — крык роспачы
прыцiснутага да сценкі неба.
* * *
Маланка — бліск скальпеля
ў руках Прыроды.
* * *
У жыцця пад бічом
прысмак сечанай раны.
* * *
Лёсы людзей, што дарогі,
размінаюцца на ростані жыцця.
* * *
Эгаізм гасіць розум,
як катаракта вобраз.

БАРЫС РУСКО

## ЗАЧАРАВАНАЕ КОЛА

У адным купэ едуць дырэктар установы са сваім падначаленым, а таксама сярэдніх гадоў жанчына з 17-гадовай дачкой. Калі цягнік увайшоў у тунель, а ў купэ стала цёмна, пачуўся гук пацалунка і тут жа — гук аплявухі.

Маці падумала: „Усё ж я добра выхавала сваю дачку!"

Дачка падумала: „Хоць матулі ўжо трыццаць шэсць, але ж яшчэ карыстаецца поспехам!"

Дырэктар падумаў: „Што за чорт, мой падначалены цалуецца, а я атрымліваю аплявуху!"

Падначалены падумаў: „Вось уедзем у наступны тунель, і я зноў што ёсць моцы пацалую сваю руку і з новай сілай уляплю аплявуху дырэктару!"

(„Вожык")



Мал. Я. Бусла

## З НАШАГА ЖЫЦЦЯ

У адной вёсцы нашай гміны жыў стары кавалер. Усе ягоныя аднагодкі даўно пажаніліся, а ён выбіраў, перабіраў, і не агледзеўся, як і сам застаўся.

На танцы хадзіў кожны тыдзень. Пакуль быў маладзейшы, дзяўчаты ахвотна з ім танцавалі, бо танцор з Максіма быў нядрэнны. Цяпер найчасцей прыходзілася падпіраць сцяну ці піць піва.

Аднойчы пайшоў на забаву і запрасіў танцаваць прыгожую дзяўчыну. Пагулялі два танцы. Дзяўчына так глядзела на Максіма, падумаў, што, пэўна, спадабаўся ёй. Прыгарнуў яе мацней. Можа, што з гэтага будзе?.. Раптам дзеўка сказала:

— Адчапіцеся, дзядзьку, хопіць вам два танцы. Лепш ідзіце дадому, а то яшчэ жонка сюды прыбяжыць і мяне паб'е за вашыя абдымкі! Я лепш пайду да сваіх сябровак!

— Я ж кавалер, ніякая жонка сюды не можа прыйсці. Ты мне так падабаешся, давай, пройдземся...

— Перастаньце! Ведаю я такіх! Я не веру, што ў такіх гадах вы нежанаты. Ідзіце лепш да жонкі на цёплыя ногі, мне пара да сваіх, — дзяўчына адвярнулася і пайшла.

Максім пастаяў, пастаяў і пайшоў дадому. Усе памяталі ягоную колішнюю пагаворку: „Гдзе строна, там нажэчона". Гэта было не так зусім і даўно...

* * *

Мінуў год ад вяселля сына. Пачала Ніна сварыцца з нявесткаю і прыгаварваць: „Што з цябе за гаспадыня? Я ў сваёй хаце дваццаць гадоў пражыла, усё нажыла ды ўсяго накупіла! Тут нічога твайго няма! Усё — маё, маім карыстаешся!" „Калі я дваццаць гадоў у вашай хаце з вамі пражыву, то яшчэ больш накуплю!", — засмяялася маладая. Маці змоўкла.

* * *

— Мама, ведаеш, як Сука ўдарыць нагой у мяч, то той праляціць цераз усю хату! — захапляецца сын, вярнуўшыся са школы.

— Што ты пляцеш! Я не чула, каб які сабака меў такую моц у лапе, каб яго так выдрэсіравалі, каб мог перакінуць мяч цераз будынак! Ну, не можа гэтага быць.

— Гэта ж наш Сука не сабака! Гэта з шостага класа Косця Кос!

Аўрора

## РАСТЛУМАЧАЛЬНІК

**Ліст** — карта нейкага невядомага кантынента.

**Вясёлка** — мост між сонцам і даждом.

**Канікулы** — свабодны час ад ухільвання ад навукі.

**Пенсія** — узнагарода для ўнукаў за працу дзядулі і бабулі.

**Спеласць** — гэта такі стан, калі цемра не выклікае ўжо страху, а толькі спадзяванне прыемнасці.

Адам Сяменчык

## СМЕХ У САНАТОРЫІ

* * *

Багаты бізнесмен звоніць у бюро сваёй фірмы:

— Ці дома ўсё ў парадку? — пытае клерка.

— Не, ваша жонка прымае цяпер у сваёй спальні каханка.

— Неадкладна застрэль іх!

Праз хвіліну клерк вяртаецца:

— Выканана! — заяўляе ў трубку.

— Цудоўна; а цяпер іх целы скінь са скалы за домам!

— За нашым домам няма ніякіх скал...

— А гэта нумар 34-12-11?

— Не, памылка.

* * *

— Ці ведаеш, што ўчора ўдалося мне ўратаваць адну дзяўчыну перад згвалтаваннем?

— Сапраўды? Тады ты герой! Як ты гэта зрабіў?

— Вельмі проста; удалося яе ўгаварыць, каб сама аддалася.

* * *

— Знаеш, Гапка, учора праспала я са штангістам.

— Што ты скажаш? І якія ўражанні?

— Адчувала так, быццам прываліла мяне вялікая шафа з маленькім ключыкам.

* * *

Размаўляюць дзве сяброўкі:

— Што ты сказала мужу, калі ішла на рандэву з другім мужчынам?

— Як заўсёды сказала праўду, што іду на параўнаўчыя даследаванні.

* * *

— Ці вы можа чулі, мадам, пра шасцідзесяцісекундны аргазм?

— Не, ніколі я пра гэта не чула.

— А ў вас хвіліна часу знойдзецца?

* * *

Жонка вяртаецца раней з санаторыя і застае дома мужа з каханкай, якія голыя гуляюць у карты:

— Што скажаш на сваё апраўданне?! — крычыць злосна.

— Мы не гуляем на грошы, а толькі на ачкі.

* * *

— Праз хвіліну прыйдуць да нас мае сябры, — гаворыць муж жонцы.

— Ці ты здурэў? У пакоях не прыбрана, у ваннай намочана бялізна, абед мне прыгарэў, у дзіцяці панос, а я непрычэсаная бегаю ў халаце, а ты без папярэджання гасцей клічаш!..

— Не нервуйся, душачка мая; гэта нічога не шкодзіць. Мае сябры думаюць жаніцца, дык я запрасіў іх да нас, каб пабачылі, як выглядае сямейнае жыццё.

* * *

— Ведаеш, Верачка, не магу ўжо вытрымаць з маім мужам: ён страшэнна раўнівы.

— Беспадставўна?

— Яшчэ б толькі гэтага бракавала!

Даслаў
Андрэй Гаўрылюк

## САРДЭЧНЫЯ ТАЙНЫ

Дарагое Сэрцайка! Я ніколі не мела прэтэнзій да маёй маці за тое, што жыла яна, як жыла. А была, трэба прызнаць, заўсёды свабодным чалавекам. Свабодная, не на штаце прафесія, незалежная ад мужа, самастойныя ад маленькага дзеці, што ўмелі зварыць абед, — усё гэта ствараля маёй маме варункі для творчай працы.

І мы, дзеці, разумелі яе і захапляліся ёю. Мама заўсёды была на першым плане. Бацька з яго вельмі празаічнай прафесіяй не лічыўся. Ён хадзіў на павадку ў мамы. Быў закаханы ў маму, як і мы, і не бачыў па-за ёю іншых жанчын.

Але яна ўбачыла іншага мужчыну. Уяві сабе, каго! Упадабала сабе мужа бацькавай сястры, сям'я якой была з намі зжытая, як адна. І той кінуўрыну ўсё і ўсіх, пабралі разводы, і мой бацька быў вымушаны пакінуць вілу нам, а фактычна маме і яе новаму мужу. Што было рабіць?! Мы, дзеці, вельмі перажылі гэта. Усё-такі было нам усім разам добра. Але неяк прывыклі да новага становішча.

І, можа, усё было б яшчэ някепска, калі б не мая бяда. Я забылася табе адразу напісаць, што я студэнтка, мне 21 год і ёсць у мяне хлопец, з якім мы ходзім ужо два гады і збіраліся пажаніцца. Я нават не перажывала, калі зацяжарыла. Ні ён, ні я не ўяўлялі сабе жыцця з кімсьці іншым. Возьмем шлюб — і ўсё, — вырашылі мы.

А тут мама паведамляе нам, сваім дзецям, што будзем мець новага брацікa. Я чуць не самлела. Божа! Што ж гэта будзе? Людзі засмяюць. Маці і дачка будуць разам хадзіць цяжарныя?!

Я перадумала ўсё. І ўсё ж прыйшла да вываду, што я яшчэ маладая, на дзяцей яшчэ маю час. А мама ўжо мусіць спяшацца. Можа гэта для яе апошні званок, каб мець дзіця з каханым мужчынам. Няхай яна нараджае, а я вырашыла, пакуль час, пазбыцца цяжарнасці. Але баялася сказаць пра гэта свайму хлопцу. Пайшла паціху ў прыватны кабінет, у якім, як мне сказалі, робяць аборты, і зрабіла тое, што пастанавіла зрабіць.

Даражэнькае Сэрцайка! Хлопец, даведаўшыся пра тое, што я зрабіла, не хоча мяне нават бачыць. Не тэлефануе, не прыязджае да мяне. Я прабавала званіць яму, але ўвесь час мне там адказвалі, што яго няма дома.

Мама нават не пераналася гэтым фактам, а наадварот — уцешылася. Цяпер яна адчула сябе маладой, як калісьці, нягледзячы на свае 43 гады. Я для яе была як калода пры назе, калі зацяжарыла.

Але найгоршае тое, што я баюся, каб не здарылася яшчэ большая бяда. Часта ж жанчыны пасля аборту не могуць мець дзяцей. Гэта для мяне была б трагедыя.

І так я страціла ўсё: і хлопца, і дзіця, і маці, у якой толькі цяпер я ўбачыла яе эгаізм і абыякавасць да ўсіх, апрача сваёй асобы. Ці варта было складаць такую ахвяру?

Рэня

Рэня! Праўда, што для маці добрая дачка аддала б і жыццё. Ты аддала ёй сваё дзіця, а мо і шчасце ў жыцці. Гэта цэніцца. Такіх дочак не сустрэнеш на кожным кроку.

Але твая маці не вартая гэтага. Яна ўцешылася фактычна з твайго няшчасця. Не важна, што гэты твой учынак можа зруйнаваць тваё жыццё. Важна, што зноў яна будзе адчуваць сябе маладой, хаця кожны разумны чалавек і так зразумее, што гэта фікцыя.

Для сапраўднай маці, якая варта гэтага вялікага імя, найбольшым шчасцем у жыцці з'яўляецца шчасце яе дзяцей. Нават калі так ёй хацелася мець дзіця з новым мужам, дык не павінна была табе дазволіць на такі крок. Неяк бы можа перажыла, што час ляціць і дзеці яе павырасталі.

Сэрцайка